ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№8 (125) жнівень 2021 год

CATHOLICNEWS.BY

# "Мы - дзеці Твае, Найсвяцейшая Панна Марыя. Наш Браслаўскі край Матчыным вокам акінь"













Пілігрымы з Глыбокага

Усувязі са складанай эпідэмічнай сітуацыяй ва ўсёй Беларусі ўжо другі год не праводзяцца арганізаваныя пілігрымкі, але ў Браслаў прыйшло пешшу нават некалькі груп з Глыбокага (адзін чалавек, дзве двухасабовыя і чацвёртая – 16 вернікаў), экстрэмальна-пакутная моладзевая група з Удзела, а таксама прыбылі пілігрымы на роварах з Пастаў і Глыбокага. Цікава, што маршруты да Марыі былі розныя, не паўтараліся.

Увечары 20 жніўня распачаліся традыцыйныя ўрачыстасці ў гонар Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе. Святую Імшу, падчас якой вернікі з розных парафій Віцебскай дыяцэзіі прынялі сакрамант канфірмацыі, цэлебраваў Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі.

А 23.15 распачалася ўрачыстая працэсія з малітвай на ружанцы па вуліцах Браслава з копіяй абраза Маці Божай Валадаркі азёраў. Па вяртанні апоўначы св. Імшу ўзначаліў дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB. Разам з ім перад цудатворным абразом маліліся біскуп Казімір Велікаселец, Апостальскі адміністратар sede vacante Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, арцыбіскуп на пенсіі Тадэвуш Кандрусевіч, Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі і старшыня ККББ біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Кульмінацыяй урачыстасці 21 жніўня стала галоўная Імша, якая прайшла на палявым алтары перад касцёлам. Цэлебрацыю Эўхарыстыі ўзначаліў найстарэйшы каталіцкі іерарх у Беларусі біскуп Казімір Велікаселец.

Як гаспадар дыяцэзіі біскуп Алег Буткевіч шчыра прывітаў усіх прысутных – іерархаў, святароў, прадстаўнікоў улады, пілігрымаў і мясцовых вернікаў. Біскуп Віцебскі падкрэсліў, што “мы сабраліся, каб спяваць Валадарцы азёраў гімн праслаўлення тут, у гэтым месцы, пры Яе цудоўным абразе, даручаючы Ёй, нашай Нябеснай Маці, нашае жыццё, наш лёс, лёс нашай краіны, жыццё кожнага з нас паасобку і ўсяго грамадства разам”.



Гамілію да прысутных прамовіў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Запрашаем паслухаць аўдыёверсію казання, адсканаваўшы QR-код.

У гэты ж дзень біскуп Алег аддаў у апеку Маці Божай Валадарцы азёраў усю Віцебскую дыяцэзію, прачытаўшы Акт прысвячэння.

Перад урачыстым бласлаўленнем і развітаннем Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі запрасіў усіх на святкаванне ў наступным годзе, якое адбудзецца ў Браславе 20 жніўня 2022 года.

***Марына Сінкевіч,*** *тэкст і фота*
***Леанід Юрык,*** *фота*













Удзельнікі экстрэмальна-пакутнай пілігрымкі з Удзела



# У Іспаніі пяць родных сясцёр за два гады сталі манахінямі

**Езус паступова паклікаў да манаскага жыцця сясцёр Джордану, Франчэску, Амаду, Рут Марыю і Назарэт.**

Гісторыя пяці біялагічных сясцёр, якія менш чым за два гады сталі законніцамі, прыцягнула ўвагу каталікаў у Іспаніі, адкуль паходзіць сям'я. Дарэчы, акрамя пяці дачок, у бацькоў яшчэ ёсць два сыны.

Усе сёстры далучыліся да кантэмпляцыйнага манаскага Інстытута Iesu Communio, заснаванага ў 2010 годзе ў Бургосе, на поўначы Іспаніі. Першай была Джордана. У наступным годзе далучыліся Франчэска і Амада. Праз два месяцы – Рут Марыя, старэйшая з сясцёр. Нарэшце, яшчэ праз паўгода, уступіла ў законную супольнасць Назарэт.

Шляху пяці манахінь пасрыяў фільм, падрыхтаваны Інстытутам. Амада ў сваім сведчанні кажа: "Гэта было вялікай нечаканасцю для ўсіх, калі Гоcпад за два гады паклікаў у кляштар пяць сясцёр". Яны нават не размаўлялі паміж сабой пра пакліканні да законнага жыцця: "Мы не ведалі пра гэтае жаданне, якое Дух Святы абудзіў у нас". І дадае: "Бог мае свае планы і ведае час і месца кожнага з нас".

У фільме сястра Амада ад Езуса кажа, што з дзяцінства яна трымала "вельмі простыя адносіны" з Богам, але яе пакліканне да манаскага жыцця было не так лёгка распазнаць і прыняць: "У нейкі момант я зразумела, што Ён хоча мяне для Сябе, і толькі разважанне аб гэтым напаўняла мяне радасцю. Аднак я лічыла, што пакліканне – гэта таксама адмова ад ролі жонкі і маці. Я станавілася перад Ім і прасіла, каб не было жадання адмовіцца ад гэтага".

Амада наведвала сустрэчы, арганізаваныя ў яе парафіі Інстытутам Iesu Communio, дзе манахіні расказвалі пра свой досвед "адкуплення і аздараўлення". У той час Амада вывучала спецыяльную педагогіку, што паўплывала на яе асабістае жыццё: "Бог быў у гэтых інвалідах, атрымлівае ад мяне лепшае. Я вучылася і думала, што будзе лепш для таго ці іншага чалавека. У рэшце рэшт, паўната – гэта аддаць сябе ў дар. Мы створаныя, каб любіць і быць каханымі, а Ён – крыніца любові".

Калі яна зразумела, што Езус кліча яе цалкам прысвяціць сябе Яму, то пайшла пагаварыць з настаяцельніцай Інстытута: "Мне трэба было даведацца, ці сапраўды гэта Ён, ці я нешта прыдумляю".

З тых часоў прайшло трынаццаць гадоў. Сёння Амада ад Езуса заяўляе: "Дар кансэкраванага жыцця ўнікальны. Сёння я тут з любові да Яго, і я адчуваю, што Ён мяне вельмі любіць. Я адчуваю, што Я глыбока каханая Ім. Бясплатна".

*Паводле pl.aleteia.org*
*Пераклад **Марыны Сінкевіч***

# Папа Франциск сыграл с верующим в настольный футбол



**Неожиданным образом завершилась общая аудиенция Папы Римского в Ватикане: по традиции лично приветствуя участников встречи, Понтифик решил немного поиграть с одним из верующих в настольный футбол, пишет rbc.ru со ссылкой на издание Gazzetta del Sud, опубликовавшее фотографии "матча".**

Естественно, бело-снежный стол для кикера был принесен и установлен в ватиканском Зале Павла VI заранее. Тем не менее, Папа Франциск был явно обрадован этим сюрпризом и, улыбаясь, на некоторое время отдался этой любимой молодежью игре.

Стол для футбола является инклюзивным. Он специально был смастерен таким образом, чтобы на нем смогли играть люди с инвалидностью. Например, его высоту можно настроить так, чтобы дать возможность играть людям на инвалидных колясках.

Папа Франциск широко известен тем, что легко может отступить от протокола, чтобы пообщаться с простыми людьми, с которыми из-за множества обязанностей он встречается не столь часто.

# Кардынал Паралін і Прэзідэнт Наўседа размаўлялі пра сітуацыю ў Беларусі

**13 жніўня Дзяржаўны сакратар Яго Святасці кардынал П'етра Паралін сустрэўся з Прэзідэнтам Літоўскай Рэспублікі Гітанасам Наўседам. Абмяркоўвалася і сітуацыя ў Беларусі.**

Як паведамляецца на афіцыйным сайце літоўскага лідара, на сустрэчы Прэзідэнт запэўніў кардынала Дзяржсакратара, што высока цэніць цесныя і плённыя адносіны паміж Літвой і Святым Пасадам, якія падтрымліваюцца стагоддзямі. Літва заўсёды будзе памятаць, што Ватыкан ніколі не прызнаваў акупацыі краіны. Палітык назваў гонарам тое, што літовец, маньсеньёр Вісвальдас Кульбокас быў прызначаны Апостальскім нунцыем ва Украіне.



Сярод іншага, Наўседа і кардынал Паралін абмеркавалі сітуацыю з пандэміяй у Літве і свеце. Прэзідэнт і Дзяржсакратар пагадзіліся з тым, што сёння абмен вакцынамі з'яўляецца важнай формай глабальнай салідарнасці.

У цэнтры ўвагі была таксама з'ява нелегальнай міграцыі, якая выкарыстоўваецца як гібрыдны інструмент, і сітуацыя ў Беларусі. "У гэтыя часы нявызначанасці маральны аўтарытэт Святога Пасаду вельмі важны для Літвы і ўсяго свету. Падтрымка Святым Пасадам правоў чалавека, вяршэнства права і дэмакратычных каштоўнасцей – маральная сіла, якая заўсёды, таксама і ў гэтыя цяжкія часы, нагадвае свету, што мэтай палітыкі і міжнародных адносін з'яўляецца мір і дабрабыт людзей замест выжывання таго ці іншага рэжыму", – сказаў Прэзідэнт.

Наўседа папрасіў кардынала Параліна перадаць Святому Айцу Францішку сваю пашану і цёплыя пажаданні.

***Кс. Аляксандр Амяльчэня,***
*Беларуская рэдакцыя*
*Vatican News*

# Фестываль хрысціянскай музыкі прайшоў на Глыбоччыне

**14 жніўня пры парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Удзеле (Глыбоцкі дэканат) упершыню адбыўся Фестываль хрысціянскай музыкі – SD FEST. Музычны фэст прайшоў у дзень успаміну св. Максіміліяна Марыі Кольбэ пад дэвізам "У любові няма страху".**

■ Марыя і Дар'я Іваноўскія, *тэкст*;
Соф'я Марціновіч, *фота*.

У Удзела прыехала моладзь з Віцебска, Мінска, Брэста, Варапаева, Браслава, Полацка, Падсвілля. Арганізавала SD FEST моладзь з Глыбокага разам з кс. Яўгенам Шымановічам пры дапамозе моладзі Удзелаўскай парафіі разам з а. Віктарам Мялешкам OFMConv.




Фестываль распачаўся са святой Імшы, пасля якой было крыху вольнага часу, калі ўсе маглі бліжэй пазнаёміцца, агледзець наваколле. Каля духоўнай зоны прысутныя маглі паразважаць, што для кожнага значыць "каханне". У "бары" частавалі смачнымі напоямі і слодычам. Гульнявая зона дапамагала завесці новыя знаёмствы.

Пасля быў квэст на знаёмства з тэрыторыяй і згуртаванне каманды. Затым пачаўся сам фестываль, на якім выступалі гурты Sperantes in Domino (Глыбокае), Ex anima (Браслаў), моладзь з Удзела і Варапаева, дуэт Laudans (Брэст).

Арцём Ткачук з Гродна правёў канферэнцыю "Паступіць, зрабіць кар'еру і не страціць веру", дзе падзяліўся і сваім сведчаннем. Пасля канцэртнай праграмы распачаліся танцы і гульні. А завяршэннем вечара была адарацыя Найсвяцейшага Сакраманта на свежым паветры, дзе моладзь разам праслаўляла Госпада.

# У Барысаве асвечаны новы касцёл



**У суботу, 14 жніўня, у Барысаве арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч здзейсніў асвячэнне новазбудаванага касцёла Спаслання Духа Святога.**

■ **Кс. Мікола Гракаў**, *Catholic.by*; **Віталь Паліневускі**, *фота*;

Сімвалічна, што гэтая ўрачыстая падзея, якую вернікі маладой каталіцкай супольнасці аднаго з найбуйнейшых райцэнтраў Беларусі чакалі больш за дзесяцігоддзе, адбылася ў год святога Юзафа – Апекуна паўсюднага Касцёла.

Падзея для горада на Бярэзіне сапраўды гістарычная, бо да гэтага часу ў Барысаве існаваў толькі адзін касцёл, які памятае яшчэ Напалеона. Новы касцёл з'явіўся ў маладой частцы горада, якая хутка расце і дзе жыве шмат католікаў.

Ва ўрачыстасці асвячэння бралі ўдзел Генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Юрый Касабуцкі, святары, кансэкраваныя асобы, прадстаўнікі мясцовай улады і шматлікія вернікі.

Перад уваходам у касцёл працэсію духавенства сустрэлі парафіяне, якія шчыра прывіталі арцыбіскупа Кандрусевіча і ўручылі яму сімвалічны ключ ад новазбудаванай святыні. Заслужаны іерарх выказаў радасць ад таго, што часы, калі касцёлы на нашай зямлі зачыняліся і руйнаваліся злачыннай савецкай уладай, змяніліся часам адраджэння Касцёла, калі ў Беларусі будуюцца і адчыняюцца новыя святыні. Са слязьмі радасці на вачах арцыпастыр запрасіў усіх увайсці ў сярэдзіну касцёла: "З радасцю ўвойдзем у дом Божы!"

Дух Святы паступова і няўхільна змяняе аблічча беларускай зямлі. За гэты год у Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі асвячаецца ўжо другі касцёл у Яго гонар: у студзені арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч асвяціў касцёл Святога Духа ў мікрараёне Чыжоўка ў Мінску.

На пачатку ўрачыстасці асвячэння касцёла Спаслання Духа Святога ў Барысаве пробашч парафіі ксёндз-канонік Аляксей Раманчук, чыімі намаганнямі вялося будаўніцтва святыні і добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі, коратка распавёў пра гісторыю таго, як у Барысаве з'явіўся гэты новы храм.

"Усё пачыналася на пачатку 2000-х гадоў, калі святой памяці кардынал Казімір Свёнтэк стварыў у Барысаве новую парафію, першым душпастырам якой стаў „патрыярх" барысаўскай зямлі ксёндз Юзаф Пятушка.

Дзякуй Богу за тое, што сёння ён прысутнічае сярод нас", – сказаў ксёндз Аляксей. Ён дадаў, што яшчэ адзін былы пробашч, барысаўчанін ксёндз Аляксандр Тарасевіч, які цяпер нясе служэнне ў Іспаніі, далучаецца да ўрачыстасці з дапамогай прамой трансляцыі, арганізаванай парталам Catholic.by. Святар падзякаваў яшчэ двум душпастырам, якія прычыніліся да станаўлення і развіцця парафіі: ксяндзу Адаму Дынаку і ксяндзу Уладзіславу Лазару, каторы распрацаваў праект будучага касцёла.

Словы падзякі прагучалі і ў адрас усіх тых, хто дапамагаў у гэтай высакароднай Божай справе. А гэта вялікая колькасць людзей як у Беларусі, так і з замежжа. Асаблівым чынам пробашч адзначыў заслугі тутэйшага парафіяніна Юзафа Зубовіча, чый унёсак быў адзначаны памятнай шыльдай на ўваходзе ў касцёл, а таксама папскім медалём, каторы ўручыў яму арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Распачынаючы цэлебрацыю святой Імшы, арцыпастыр сказаў, што ахвяруе яе ў інтэнцыі ўсіх тых, хто прычыніўся да будаўніцтва святыніідобраўпарадкавання тэрыторыі вакол яе.

На пачатку іерарх здзейсніў бласлаўленне вады і акрапіў ёю людзей – жывы Касцёл Божы, а таксама сцены рукатворнай святыні, якая становіцца бачным домам Божым, дзе бруіць крыніца духоўнага адраджэння вернікаў.

У прамоўленай гаміліі арцыбіскуп Кандрусевіч адзначыў, што дзень пасвячэння новага касцёла ў Барысаве – гэта дзень духоўнага нараджэння новай святыні, якая становіцца домам малітвы і месцам сустрэчы чалавека з Богам.

"Кожная рэлігія мае сваё святое месца, дзе людзі адчуваюць блізкасць Бога. <…>

Для нас, католікаў, такім месцам з'яўляецца касцёл, дзе абвяшчаецца Божае слова, цэлебруецца Эўхарыстыя і іншыя сакраманты, здзяйсняецца дабрачыннасць",– адзначыў арцыпастыр.

Нагадаўшы вучэнне Езуса пра тое, што Богу неабходна пакланяцца ў духу і праўдзе (пар. Ян 4, 19–24), напамін апостала Пятра, што мы з'яўляемся жывымі камянямі духоўнага дома (пар. 1 П 2, 4–9), а таксама словы святога Паўла пра тое, што мы з'яўляемся святынямі Святога Духа (пар. 1 Кар 3, 9–17; 6, 19–20), іерарх прапанаваў паразважаць над тым, навошта хрысціянам патрэбна святыня.

"Што робіць касцельны будынак святым месцам? Літургічны акт асвячэння, а таксама тое, што адбываецца тут пасля гэтага: абвяшчэнне Божага слова, цэлебрацыя сакрамантаў, перадусім Эўхарыстыі, і іншыя набажэнствы. У выніку касцёл становіцца не столькі будынкам, колькі прысвечаным Богу месцам. <…>

У касцёле здзяйсняюцца незвычайныя справы: людзі становяцца дзецьмі Божымі, хлеб і віно пераменяюцца ў Цела і Кроў Хрыста, грэшнікі – у святых… Такія выключныя справы патрабуюць выключнага месца!" – сцвердзіў заслужаны іерарх.

Дадаўшы, што сапраўдным Касцёлам з'яўляецца Божы Народ, які складаецца з жывых камянёў чалавечых сэрцаў, ён выказаў пажаданне, "каб мы сталі Божым Народам, каторы будуе сваю будучыню на каштоўнасцях Евангелля і адчувае адказнасць за евангелізацыю сучаснага свету".

"У гісторыі нашай краіны і ва ўсім свеце Барысаў вядомы перамогай над напалеонаўскім войскам на рацэ Бярэзіне. Мы – мірныя людзі, але павінны змагацца з новым ворагам, імя якому секулярызм і маральны рэлятывізм.

Нашыя продкі перамаглі ва ўмовах бязбожнага і нялюдскага савецкага рэжыму, але ці пераможам мы ў час свабоды?

Яны захавалі веру і перадалі яе маладому пакаленню падчас ганенняў. Ці мы зможам яе захаваць і перадаць наступным пакаленням ва ўмовах свабоды веравызнання? Для гэтага неабходна карыстацца тымі духоўнымі магчымасцямі, якія нам дасць новазбудаваны касцёл. Не толькі цешыцца з яго прыгожай архітэктуры, але праз малітву і ўдзел у сакрамантах самім станавіцца духоўна прыгожымі святынямі Святога Духа", – заахвоціў вернікаў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Адзначыўшы, што пасвячэнне новага барысаўскага касцёла адбываецца ў вігілію ўрачыстасці Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, сваю гамілію арцыпастыр завяршыў кароткай малітвай: "Духу Святы, Якому прысвечана новая святыня, кіруй намі і дапамагай узрастаць у святасці, каб мы на зямлі будавалі цывілізацыю любові, міру, супакою і жыцця, а ў вечнасці дасягнулі радасці прабывання ў нябесным Ерузалеме разам з нашай духоўнай Маці Марыяй".

Пасля гаміліі ўдзельнікі ўрачыстасці ўзнеслі малітву літаніі да Усіх Святых, просячы іх заступніцтва і апекі. На яе заканчэнне з вежы святыні загучалі званы. Пад іх радасны перазвон арцыбіскуп Кандрусевіч прачытаў малітву асвячэння касцёла і алтара, пасля чаго разам з біскупам Касабуцкім намасціў сцены і алтарную менсу алеем хрызмам.

Новаасвечаны алтар быў засцелены белым абрусам, пасля чаго жанчыны і дзяўчаты ўпрыгожылі яго кветкамі.

Нарэшце, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч перадаў пробашчу парафіі ксяндзу Аляксею запаленую свечку, ад якой святар запаліў свечкі на алтары, і на ім адбылася першая пасля асвячэння Эўхарыстычная ахвяра Хрыста.

На заканчэнне ўрачыстасці канцлер Курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі ксёндз-канонік Дзмітрый Пухальскі прачытаў дэкрэт – афіцыйны дакумент аб асвячэнні касцёла ў Барысаве.





Відэа аб пасвячэнні касцёла можна паглядзець, адсканаваўшы QR-код:



**кс. Аляксандр Улас і Марцін Паліневускі**, *відэа*



# Полацкая езуіцкая акадэмія (1812-1820 гг.):

**З рыма-каталіцкай царквой звязана дзейнасць многіх адукацыйных цэнтраў, а таксама пачатак існавання вышэйшых навучальных устаноў у сённяшніх межах нашай краіны. Першай ВНУ тут стала Полацкая езуіцкая акадэмія. Зрэшты, на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага першай вышэйшай навучальнай установай была таксама каталіцкая – Віленская акадэмія (з 1579 г.), якая таксама належала Таварыству Езуса.**

**Раіса Зянюк**

Ордэн езуітаў прынёс на беларускія землі арганізаваную сістэму еўрапейскай школьнай адукацыі.

> **Таварыству належаў шэраг пачатковых, сярэдніх і спецыяльных (музычных) школ у Гродне, Навагрудку, Мінску, Пінску, Магілёве, Нясвіжы, Оршы, Віцебску і ў іншых гарадах.**

Да канца XVIII ст. езуіты і піяры, якія далучыліся да іх у тым жа стагоддзі, былі бясспрэчнымі лідарамі па колькасці навучальных устаноў, а ордэны спаборнічалі паміж сабой па змесце і якасці адукацыі. Піяры, аднак, мелі меньшую колькасць вучэльняў.

Пасля ўключэння беларускіх зямель у склад Расійскай імперыі сітуацыя змянілася. У 1772 годзе адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай. Пасля яго да Расіі адышлі ўсходнебеларускія землі з гарадамі Полацк, Віцебск, Орша, Магілёў і інш. Ва ўсіх гэтых гарадах езуіты мелі свае кляштары, касцёлы і навучальныя ўстановы. За межамі Расійскай імперыі да наступных падзелаў заставаліся езуіцкія калегіумы ў Мінску, Нясвіжы, Гродне, Пінску, Навагрудку і некаторых іншых мясцовасцях.

21 ліпеня 1773 г. Папа Рымскі Клемент XIV выдаў брэвэ Dominus ac Redemptor аб забароне дзейнасці Таварыства Езуса. Для таго, каб гэта ажыццяўлялася паўсюль, езуіты ў кожным іх манастыры павінна былі азнаёміцца з папскай булай.

Аднак яшчэ раней, 14 (25) снежня 1772 г., Кацярына II на тэрыторыі Расійскай імперыі адмовілася прыводзіць у выкананне любыя пастанаўленні, брэвэ, булы і пастырскія пасланні Папы Рымскага і Рымскай Курыі. У выніку менавіта на прыкладзе прававатага становішча ордэна езуітаў расійскія ўлады прадэманстравалі Рыму непадпарадкаванне і рэалізацыю канфесійнай палітыкі ў адпаведнасці з інтарэсамі сваёй дзяржавы. Асноўным мерапрыемствам у гэтым кірунку стала захаванне ордэна на далучаных да Расійскай імперыі землях і дазвол езуітам працягваць душпастырскую і адукацыйную дзейнасць.

Езуіты на беларускіх землях ведалі пра выдадзеную булу, аднак паколькі не быў здзейснены акт абвяшчэння і прачытання булы аб скасаванні, ордэн працягваў сваё існаванне.

16 лютага 1777 г. ордэн езуітаў атрымаў імператарскі дазвол на заснаванне ў Полацку навіцыята – першай прыступкі ў працэсе падрыхтоўкі будучых езуітаў. У 1782 г. ордэн атрымаў права абіраць свайго кіраўніка – генеральнага вікарыя. У пачатку другога дзесяцігоддзя XIX ст. Полацкі калегіум набыў правы і статус акадэміі з падпарадкаваннем усіх езуіцкіх школ у імперыі дадзенай навучальнай установе.

Заснаванне гэтай вышэйшай навучальнай установы было звязана з ініцыятывай і намаганнямі езуітаў і дыктавалася нежаданнем ордэна падпарадкоўвацца Віленскаму ўніверсітэту па адукацыйных пытаннях і імкненнем праводзіць уласную палітыку ў адносінах да школ ордэна ў Расійскай імперыі. Адкрыццё акадэміі адбылося 15 чэрвеня 1812 г. На ўрачыстасць прыбылі шматлікія госці – прадстаўнікі як свецкіх, так і духоўных уладаў (мінскі рыма-каталіцкі біскуп Я.І. Дэдэрка, магілёўскі біскуп-суфраган К. Адынец, уніяцкі арцыбіскуп Красоўскі і інш.). Праз французска-рускую вайну непасрэдную працу вышэйшая навучальная ўстанова распачала толькі 6 студзеня 1813 г.

Першаснай функцыяй акадэміі з'яўлялася яе дзейнасць як пляцоўкі для атрымання адукацыі чальцамі ордэна езуітаў. Значыць, у адносінах да іх акадэмія выконвала функцыі манаскіх студый і вышэйшай навучальнай установы. Для іншых прадстаўнікоў духавенства акадэмія адыгрывала ролю вышэйшай навучальнай установы, якая давала магчымасць атрымання навуковых ступеняў. Другаснай функцыяй з'яўлялася адукацыя свецкага насельніцтва беларуска-літоўскіх губерняў. Абедзве названыя функцыі рэалізоўваліся паралельна.

Поліфункцыянальнаму характару была падпарадкавана і структура акадэміі. Яна мела тры факультэты: тэалагічны, вольных мастацтваў, філасофіі і іншых прыродазнаўчых і грамадзянскіх навук, а таксама філалагічны (моўны). У кіраванне Полацкай езуіцкай акадэміяй свецкія ўлады практычна не ўмешваліся. Па адукацыйных пытаннях акадэмія знаходзілася ў веданні генерала ордэна, а па справах выхавання – у веданні міністра асветы.

Акадэмія мела права самастойна вырашаць кадравыя пытанні, якія толькі зацвярджаліся генералам ордэна і міністрам унутраных спраў. На чале навучальнай установы знаходзіўся рэктар, якому ў кіраванні дапамагалі чатыры дарадцы, канцлер і сакратар. На чале кожнага факультэта быў выбраны на акадэмічным савеце дэкан.

На тэалагічным факультэце выкладаліся дагматычная і маральная тэалогія, Біблія, кананічнае права, гісторыя касцёла і сусветная гісторыя. На філалагічным факультэце вывучалiся руская, французская, нямецкая, лацінская, грэцкая, яўрэйская мовы. На факультэце вольных навук і філасофіі – паэзія, рыторыка, метафізіка і логіка, фізіка, хімія, матэматыка, грамадзянская і ваенная архітэктура, права, гісторыя. Навучальны год пачынаўся 15 верасня і заканчваўся 15 ліпеня. Лекцыі пачыналіся а 8 гадзіне раніцы і працягваліся да 11 гадзіны. Пасля перапынку, які доўжыўся да 13.00, лекцыі працягваліся яшчэ тры гадзіны. Па аўторках і чацвяргах пасляабедзенных лекцый не праводзілася. У гэтыя дні можна было займацца неабавязковымі прадметамі: маляваннем, каліграфіяй, "рыцарскімі практыкаваннямі".

Усе выкладчыцкія пасады ў акадэміі займалі чальцы ордэна езуітаў. На тэалагічным факультэце працавалі чатыры прафесары, на моўным – сем, на філасофскім – восем. Дадатковыя і хатнія заняткі праводзіліся і кантраляваліся свецкімі асобамі, пераважная большасць якіх з'яўлялася канвіктарамі акадэміі.

Забарона дзейнасці ордэна ў свеце прывяла да агульнага зменшэння колькасці езуітаў. Аднак захаванне ордэна ў Расійскай імперыі прывяло да сур'ёзнага прытоку езуітаў у Полацк і ў езуіцкія манастыры на тэрыторыі Беларусі. У сувязі з гэтым генерал і правінцыял ордэна не мелі праблем у выбары прэтэндэнтаў на выкладчыцкія пасады ў акадэміі. Гэта ж уплывала і на значную паліэтнічнасць выкладчыцкіх і кіроўных кадраў, якія цалкам складаліся з езуітаў. Напрыклад, філасофію выкладаў француз кс. Карл Баландрэ, маральную тэалогію – ураджэнец Беларусі кс. Станіслаў Пятровіч, дагматычную тэалогію – Л.Р. дэ Лісэке, тэалогію – італьянец А. Калебота, матэматыку, заалогію і батаніку – француз Я. Кандру, нямецкую літаратуру – немец Я. Перлінг і г.д.

Колькасць навучэнцаў у акадэміі пастаянна павялічвалася. У першы год дзейнасці ВНУ тут навучаліся ўсяго 84 чалавекі (на тэалагічным факультэце – 25, на філасофскім – 29 і на моўным – 30). Аднак ужо ў 1814/1815 навучальным годзе колькасць студэнтаў дасягнула 136 чалавек, з якіх тэалогію вывучалі 25, філасофію – 66, мовы – 45. У агульнай масе студэнтаў духавенства складала 52%. У сваю чаргу, у колькасці студэнтаў-духоўных езуіты складалі 70%, дыяцэзіяльныя святары – 14%, базыльяне – 16% (дадзеныя на 1814/15 навучальны год). Перад закрыццём акадэміі ў ёй навучаліся 44 чальцы ордэна. З іх тэалогію вывучалі 23 чалавекі, у тым ліку 21 са святарскім пасвячэннем. Філасофію вывучаў 21 клерык. Магчымасць навучання прадстаўнікоў уніяцкай царквы акадэмія мела толькі да 1817 г., бо надалей езуітам было забаронена прымаць на навучанне ў акадэмію і ў школы ўніятаў і некатолікаў.

Духоўных асоб, якія навучаліся ў Полацкай акадэміі, цікавіла, перадусім, магчымасць атрымання навуковых ступеняў, што ў будучым забяспечвала лепшыя пасады. Полацкая акадэмія атрымала права надаваць навуковыя ступені духоўным асобам у 1814 г. Да таго часу такі прывілей меў толькі Віленскі ўніверсітэт. Акадэмія магла надаваць вучоныя ступені магістра свабодных навук і філасофіі, а таксама доктара тэалогіі, грамадзянскага і кананічнага права.

Свецкіх студэнтаў, якія выбіралі навучанне ў Полацкай акадэміі, у значнай ступені прывабліваці дабрачынныя ініцыятывы езуітаў.

> **Для дзяцей беднай шляхты ордэн прапаноўваў бясплатнае пражыванне, харчаванне і іншае забеспячэнне,**

магчымасць дадатковага навучання музыцы. Тыя,



CONSPECTUS
STUDIORUM
IN
ACADEMIA
POLOCENSI
SOCIETATIS JESU.
A 15. Septembris Anni 1819. ad 15. Julii Anni 1820.

POLOCIÆ.
Typis Academicis.

Канспект для навучэнцаў Полацкай езуіцкай акадэміі на 1819/1820 навучальны год, выдадзены ў акадэмічнай друкарні.



IHS
ANTONIUS LUSTYG
e Societate JESU
Sacrae Theologiae et Sacrorum Canonum Doctor Collegii Academici Polocensis
RECTOR MAGNIFICUS
Omnibus praesentes lecturis salutem in Domino

Дыплом аб наданні доктарскай ступені, выдадзены ў Полацкай акадэміі *(архіў езуітаў у Кракаве)*

⇒

# першая вышэйшая навучальная ўстанова Беларусі




**Кс. Ян Ротан – студэнт (да 1813 г.) Полацкай езуіцкай акадэміі, з 1829 г. – генерал ордэна езуітаў** *(інтэрнэт-рэсурс)*.

⇐ хто мелі магчымасць плаціць, атрымлівалі месцы ў шляхецкім канвікце. У дапамогу адукацыйнаму працэсу дзейнічала багатая бібліятэка. Бібліятэчныя зборы акадэміі ў 1813 г. налічвалі 40 000 тамоў. Студэнты мелі магчымасць штодзённага ўдзелу ў св. Імшы. Перад Вялікаднем спецыяльна для іх адбываліся трохдзённыя рэкалекцыі.

Полацкая езуіцкая акадэмія з'яўлялася цэнтрам незалежнай ад Віленскага ўніверсітэта навучальнай акругі, у якую ўваходзілі ўсе езуіцкія школы Расійскай імперыі. У сувязі з гэтым яна выступала і важным метадычным цэнтрам. Таму да прывілеяў, якія атрымала Полацкая езуіцкая акадэмія, належаў і дазвол мець уласную друкарню, а таксама папаўняць кабінеты і бібліятэку праз увоз абсталявання і літаратуры не толькі з Расійскай імперыі, але і з-за мяжы. Прыярытэтным кірункам друкарні Полацкай езуіцкай акадэміі з'яўлялася выданне падручнікаў і метадычнай літаратуры. Сярод агульнай колькасці друкаванай прадукцыі канспекты як для яе студэнтаў, так і для вучняў езуіцкіх школ, падручнікі і вучэбныя дапаможнікі складалі 33%. Канфесійнай літаратуры з агульнай масы выдадзенай прадукцыі належала трэцяя частка. Рэшта выдавецкай прадукцыі складалася са свецкай (класічнай) літаратуры, перыядычных выданняў, навуковых прац. Мовамі выдання былі польская, лацінская, французская, нямецкая, італьянская, літоўская, латышская, руская. Адметнасцю прадукцыі друкарні з'яўлялася яе дыферэнцыяцыя, различаная на розныя ўзроставыя і сацыяльныя групы, а таксама на розныя рэлігійныя аб'яднанні і таварыствы. Менавіта ў друкарні Полацкай езуіцкай акадэміі пачаў выдавацца першы часопіс на беларускіх землях – "Miesięcznik Połocki". У перыяд з 1818 па 1820 гг. выйшла чатырнаццаць нумароў часопіса. Кожны нумар меў шэсць раздзелаў: літаратуры і свабодных навук, маральна-філасофскі, фізіка-матэматычны, гістарычны, прысвечаны крытыцы і раздзел літаратурных навінак.

Аднак ужо ў 1815 г. у сувязі з павелічэннем пераходаў у каталіцтва вектар палітыкі адносна ордэна змяніўся. Езуітаў выслалі з "абедзвюх сталіц". Расійская даследчыца К. Ларыонава адзначае, што па жорсткасці ўказ аб выдаленні езуітаў з Масквы і Пецярбурга быў большым, чым указ Пятра І. У часы Пятра І езуітам давалі два дні на зборы, у 1815 годзе манахам на працягу сутак неабходна было выехаць з гэтых гарадоў. За такі кароткі час ні з кім з гараджан і вучняў яны не мелі права камунікаваць.

Чарговыя абмежавальныя загады былі выдадзеныя ў 1817 г., калі Полацкай акадэміі забаранілі прымаць на навучанне ўніятаў.

Пагаршэнне адносін расійскіх уладаў да ордэна адбывалася на фоне станоўчых змен у яго становішчы ў каталіцкай царкве: 7 жніўня 1814 г. Папа Рымскі Пій VII аднавіў дзейнасць ордэна ва ўсім свеце і ўсе яго правы.

Пасля смерці апошняга генерала ордэна, які кіраваў ім з Расіі, Тадэвуша Бжазоўскага (5 лютага 1820 г.) улады пачалі рашучыя дзеянні па поўным выдаленні езуітаў з дзяржавы. Пасля даклада міністра духоўных спраў і народнай асветы Аляксандра Мікалаевіча Галіцына імператару Аляксандру І было вырашана выслаць езуітаў з імперыі. Асноўнай афіцыйнай прычынай называўся празелітызм, а ў Расійскай імперыі пераходы з праваслаўя ў іншыя веравызнанні былі заканадаўча забароненыя.

13 сакавіка 1820 г. быў выдадзены Указ Сената, поўнасцю падтрыманы Аляксандрам І. Гэтым указам прадпісвалася: "1) Иезуитов, как забывших священный долг не только благодарности, но и верноподданнической присяги, и поэтому недостойных пользоваться покровительством Российских законов, выслать под присмотром полиции за пределы государства и впредь ни под каким видом и наименованием не впускать в Россию; 2) Полоцкую иезуитскую академию и подведомственные ей училища упразднить". Расійскім падданным пры ўмове секулярызацыі дазвалялася застацца ў Расіі.

Дадзеным указам прадпісвалася наступнае: усіх чальцоў Таварыства Езуса належала выслаць за межы дзяржавы і ні пад якім прэтэкстам не пускаць назад, у Расію. Полацкая акадэмія павінна была спыніць сваю дзейнасць. Езуіты на сваіх пасадах (напрыклад, у парафіях) замяняліся іншымі святарамі. Чальцоў ордэна, якія не былі матэрыяльна адказнымі, належала выслаць неадкладна. Тых, хто адказваў за маёмасць, – пасля яе здачы. Маёмасць ордэна павінна была быць прынята прадстаўнікамі свецкіх улад. Бібліятэкі, інструменты і іншыя навучальныя дапаможнікі неабходна было прыняць па вопісах спецыяльна вызначаным чыноўнікам. Грошы, якія заставаліся ў езуітаў, перадаваліся прыказам грамадскага дагляду. Кіраванне езуіцкімі маёнткамі пераходзіла ў рукі казённых палат. Грашовыя сродкі, неабходныя для арганізацыі перавозу манахаў за мяжу, вылучаліся з губернскіх экстраардынарных сум. Кантроль за высылкай езуітаў а таксама здачай і прыёмам школ ускладаўся на губернатараў. Аб'яўлялася, што калі сярод манахаў-ураджэнцаў Беларусі (навіцыяў) знойдуцца ахвотныя секулярызавацца, то яны могуць выйсці з ордэна, застацца ў Расіі, вярнуцца ў свае сем'і або ўступіць у іншы ордэн.

Арганізацыя выезду чальцоў занатавана ва ўспамінах беларускага езуіта Яна Галіча, якія апісвае даследчыца Агата Дэмковіч. У адпаведнасці з яго ўспамінамі, выезд езуітаў з Беларусі быў хуткі, часу на доўгія зборы чальцы Таварыства не мелі. Ян Галіч адзначаў, што для абвяшчэння ўказу ў кожную з мясцовасцей, дзе працавалі езуіты, прыбывала камісія ў складзе з трох чалавек, адзін з якіх зачытваў указ.

Пры папярэдняй падрыхтоўцы высылкі расійскі ўрад памылкова меркаваў, што на выезд пагодзяцца да 50 чальцоў ордэна: іншыя 300 выкажуць жаданне або секулярызавацца, або ўступіць у іншыя ордэны і застацца. Разлікі, аднак, атрымаліся памылковымі. Жаданне пакінуць межы імперыі выказалі практычна ўсе езуіты разам з правінцыялам Станіславам Свентахоўскім. Адначасова практычна ўсе яны выказалі жаданне застацца ў ордэне.

Па сведчанні, змешчаным на ўспамінах Галіча, выезд езуітаў суправаджаўся выражэннем актыўнай пазіцыі вернікаў, якія шчыра выказвалі свой настрой. Гэта пацвярджаецца і ў даследаванні І. Кадульскай, што таксама змяшчае ў сваёй манаграфіі фрагмент пра выезд езуітаў з Полацка і рэакцыю вернікаў на гэта. Паводле яе слоў, у дзень выезду езуітаў з Полацка месцічы прадэманстравалі „глыбокую прывязанасць да ордэна і агульны жаль за славу горада, якая адыходзіць разам з езуітамі".

Пасля абвяшчэння ўказу большая частка беларускіх езуітаў накіравалася ў Галіцыю, меншая – у Італію і Францыю. Галіцыя была абраная невыпадкова: там адчуваўся сур'ёзны недахоп дыяцэзіяльнага духавенства. Менавіта ў Галіцыі беларускія езуіты стварылі навуковыя пляцоўкі ў Тарнаве і Хыраве. Тарнаўская школа стала копіяй Полацкай акадэміі ў мініяцюры. У Царства Польскае езуітам таксама быў забаронены ўезд.

Забарона дзейнасці ордэна выклікала наступныя праблемы:

1 Усе езуіцкія навучальныя ўстановы (пачатковага, сярэдняга і вышэйшага ўзроўню) страцілі ўвесь свой настаўніцкі склад. У такога кшталту ўстаноў на момант забароны дзейнасці ордэна навучалася каля трох тысяч чалавек. Канчаткова закрылася Полацкая езуіцкая акадэмія. Частка школ была часова перададзена іншым ордэнам. Напрыклад, школа ў Оршы – дамініканцам, у Мсціславе – бернардзінцам, у Віцебску – базыльянам. Частка была закрытая.

2 Парафіяльныя касцёлы, у якіх працавалі езуіты, таксама адчулі востры недахоп духавенства.

3 Узнікла пытанне, як паступаць з езуіцкімі (дакладней, паезуіцкімі) маёнткамі, школамі, бібліятэкамі, дабрачыннымі інстытутамі. Яно не было вырашана паслядоўна, у сувязі з чым шматлікія кніжныя і музейныя зборы езуітаў страчаныя альбо раздзеленыя па розных установах і прыватных зборах. Так, музейныя зборы і калекцыі з Полацка ў пераважнай большасці перавезены ў Пецярбург. У 1830 г. бібліятэка полацкіх езуітаў была ўжо некамплектнай і складалася з 23551 тамоў. З іх частка была перададзена Полацкаму кадэцкаму корпусу (пераважна тэматыка матэматычая, фізічная, хімічная, і падручнікі па замежных мовах) – 2080 кніжак, частку перадалі ў Полацкі дамініканскі кляштар. Частку вывезлі ў Пецярбург і Маскву. У Імператарскую публічную бібліятэку трапіла 389 тамоў старажытных аўтараў – асабліва рэдкія выданні, Пецярбургскі ўніверсітэт атрымаў 6260 тамоў, 454 – універсітэт у Маскве. У будынак міністэрства ўнутраных спраў аддалі на захоўванне 3056 тамоў, якія прызначаліся для выкарыстання Галоўнага ўпраўлення духоўных спраў. Гэта былі пераважна кнігі па кананічным праве, гісторыі касцёла, абрадаў і веравызнанняў, зборнікі дэкрэтаў рознага права, разнастайныя слоўнікі. Астатнія 11112 тамоў прызначаліся для віцебскай гімназіі, духоўнай семінарыі ў Полацку, і рымска-каталіцкай духоўнай калегіі. Менавіта апошнія да 1833 г. захоўваліся ў кляштары полацкіх дамініканцаў, а пасля былі перададзеныя тром каталіцкім семінарыям: мінскай (7 скрынь), жмудскай (9 скрынь), магілёўскай (19 скрынь). Частка пасля трапіла і ў Пецярбургскую духоўную акадэмію.

Бібліятэкі з іншых езуіцкіх калегіумаў таксама былі падзелены і часткова трапілі ў іншыя навучальныя ўстановы, часткова зніклі. Уся іншая маёмасць перадавалася ў казну.

Спынілі існаванне і ўсе дабрачынныя інстытуты, якія дзейнічалі пры езуіцкіх калегіумах. Толькі пры Полацкім калегіуме і акадэміі спынілі сваё існаванне наступныя: 1) Семінарыя, якая функцыянавала як інстытут для дзяцей беднай шляхты і дзейнічала коштам калегіума (для 12 чалавек). 2) Жыллё для семінарыстаў – двухпавярховы каменны будынак. 3) Капэла – музыкі, якія ўтрымліваліся коштам калегіума. 4) "Фара", альбо элементарная школа, для самых бедных, мела сваю асобную залу ў---- школьным будынку, а яе вучням ("фарыстам") езуіты забяспечвалі ўсё неабходнае: кнігі, паперу і г.д. У ёй налічвалася 65 такіх вучняў. 5) Шпіталь, які ўтрымліваўся для бедных людзей, каторыя не мелі ўласнага жылля, размяшчаўся на першым паверсе двухпавярховага каменнага будынка. У ім утрымлівалася 10 чалавек, якія жылі з міласціны і з дагляду калегіума.

Полацкая езуіцкая акадэмія – першая вышэйшая навучальная ўстанова на беларускіх землях. Яе закрыццё ў 1820 г. разам з забаронай дзейнасці ордэна перарвала больш чым двухсотгадовую прысутнасць езуітаў на беларускіх землях. Езуіты вярнуліся ў Пінск і Альберцін толькі праз сто гадоў, у міжваенны перыяд, калі Заходняя Беларусь знаходзілся ў складзе Польшчы.

# Предупреждён – значит, вооружён:

## советы по предотвращению зависимости от гаджетов у детей

**В современных реалиях использование различных гаджетов просто необходимо. Ведь мир стремится к все большей компьютеризации. Наравне с развлекающей функцией телефонов и планшетов, когда ребенок может часами "зависать" в играх и популярных социальных сетях, сегодня при помощи гаджетов можно "посещать" школьные занятия, заниматься с репетитором, посещать различные курсы и мастер-классы по интересам. Одним словом, использование гаджетов открывает огромные возможности для развития, обучения и самосовершенствования наших детей. И об этом стоит непременно помнить, прежде чем объявлять бойкот новомодным устройствам в жизни наших чад.**

■ **Марина Ткач,** *психолог*

Сейчас различные информационные ресурсы пестрят заголовками статей, посвященных зависимости от гаджетов. Это вполне оправдано, так как специалисты различного профиля говорят о том, что со следующего года

**"международная классификация болезней пополнится игровым расстройством как разновидностью зависимости."**

Соглашусь, что данная новость – веский повод для родителей бить тревогу. Но в этой ситуации важно сохранить избирательность и критичность в выборе источников информации о зависимости от гаджетов. Изучайте достоверную информацию, где собраны факты, а не эмоции. Правильным походом к профилактике зависимости от гаджетов будет изучение возрастных особенностей взаимодействия с гаджетами. Они взяты не с потолка и обоснованы научно:

**Детям до 3-х лет не стоит давать в руки различные гаджеты.** Сюда же входит и просмотр мультфильмов во время еды или для более быстрого засыпания. Пренебрежение данной рекомендацией приводит к тому, что так называемые "экранные дети" начинают значительно позже говорить, их речь скудна, словарный запас невелик. Голубое мерцание экрана, яркие цвета на картинке возбуждают нервные центры, происходит выработка адреналина. Попытка забрать гаджет вызывает крик и плач. Ребенок требует то, что дает ему эмоции. Так происходит привыкание.

**Дети 3-6 лет могут использовать гаджеты 30-40 минут в день.** Проблема, с которой столкнется ребенок в этом возрасте, – удержание статического объекта зрением: глаза привыкают следить за движущимися яркими объектами в играх, зрительный центр мозга тренируется видеть и фокусироваться только на том, что движется.

**Дети 7-10 лет – до 1,5 часа в день.** Главная задача этого возраста – учебная деятельность, поэтому чтобы ребенок "не зависал" в гаджете целыми днями, пока родители на работе, его нужно занять различными домашними заданиями. Ребенок должен знать, что существует список дел, например, помочь по хозяйству, почитать книжку, поиграть с братом/сестрой, погулять с собакой. Только после выполнения такого "списка на день" можно брать в руки планшет.

**Дети 11-14 лет – 2 часа в день.**

**Дети старше 14 лет** могут использовать гаджеты не более 3-х часов в день.

Данные временные интервалы касаются в первую очередь моментов игры и развлекательного контента. В случае, если гаджеты используются для обучения, то временные периоды устанавливаются, исходя из образовательного процесса.

Когда мы говорим про зависимость от гаджетов, важно понимать, что природа возникновения зависимости, в первую очередь, физиологическая.

В регуляции поведения человека есть два мощных компонента – окситоцин и дофамин. **Окситоцин** выступает своеобразным "гормоном близости", дает ощущение принадлежности к группе, нужности и безопасности. **Дофамин** – "гормон удовольствия".

Абсолютно все игры строятся по принципу **дофаминного вознаграждения.** Например, собрал три шарика в ряд – молодец, вот тебе порция дофамина. Убил монстра – готовься к поощрению дофамином. Социальные сети и мессенджеры держаться на **окситациновой стимуляции.** Человек (в нашем случае ребенок) испытывает возбуждение, когда слышит сигнал мессенджера, лайки под фото или видео – это эквивалент социального поглаживания, но без физического контакта.

В ситуации, когда первое, что делает ваш ребенок, проснувшись утром, берет в руки телефон/планшет или в любую свободную минуту в транспорте, магазине, на улице погружается с головой в виртуальный мир, стоит обратить на это внимание и прибегнуть к следующим рекомендациям:

■ **Не создавайте ситуацию, когда единственная отдушина – гаджет.** Зависимость возникает в результате дефицита других способов справиться со стрессом, в том числе дефицита близких, доверительных отношений или автономии в отношениях. Проводите время вместе с ребенком. И это должно быть полноценное общение, а не суррогатное: играйте в активные развивающие игры, узнавайте новое, готовьте еду, делайте уборку, интересуйтесь, как и чем живет ваш ребенок.

■ **Не запрещать использование планшета, телефона ребенком, а выработать здоровое отношение к данным устройствам.** Гаджеты опасны? Да. Как и любая вещь на свете. Народная мудрость гласит: "Все разумно в меру". Поэтому учите детей пользоваться гаджетами то количество времени, которое безопасно для их здоровья и психики.



■ **Личный пример.** Стоит создать в семье культуру пользования гаджетами и безупречно соблюдать правило всей семьи. Например, можно создать расписание и пользоваться гаджетами только в определенное время. Кстати, через какое-то время вы заметите, что сами стали менее раздражительными и более сфокусированными на конкретном деле, т.к. не будете постоянно отвлекаться на свой телефон или планшет.

■ **Изменить качество использования гаджета** – с игр на развивающие головоломки, или увлекательные викторины, с фильмов – на поиск информации. Максимально использовать гаджет в качестве помощника для развития личности ребенка.

■ **Создайте полную занятость ребенка.** Это могут быть как домашние обязанности, так и различные кружки или секции. Покажите своим детям, что реальный мир не менее увлекателен и интересен, чем виртуальный.

■ **Научите детей не бояться быть не такими, как все.** Порой зависимость возникает на фоне стремления ребенка быть модным, продвинутым, быть в тренде и разбираться во всех современных направлениях "виртуальной жизни". И если ваш ребенок изначально не тянется к гаджетам и новомодному Tik Tok, объясните ему, что в этом нет ничего страшного, все мы разные и обладаем разными интересами. Поддержите его и не дайте почувствовать себя одиноким.

**Успехов!**

# Як знайсці час на малітву?

**Недахоп часу – адна з нашых істотных праблем. З панядзелка да пятніцы мы жывём у шалёным рытме, запавольваючыся толькі на кароткія выхадныя. Адным з вынікаў пастаяннага недахопу часу з'яўляецца нерэгулярная малітва, а часам і поўная яе адсутнасць.**

**Вось сем крокаў, якія дапамогуць знайсці час на штодзённую малітву:**

**1 Пераканайцеся, што ў вас ёсць сілы для малітвы.**

Змучанаму чалавеку будзе цяжка знайсці час для малітвы. Варта паклапаціцца пра рэгулярны сон і адпачынак пасля працы. Пасля адпачынку справы ідуць лепш.

**2 Пачынайце кожны дзень, кажучы "добрай раніцы" Богу.**

Як прачнецеся, павітайцеся з Богам. Калі ў вас ёсць схільнасць "даспаць", паспрабуйце неадкладна ўстаць. Пачатак дня – вельмі добры час для малітвы.

**3 Абмяжуйце час на сацыяльныя сеткі.**

Мы аддаём шмат часу, правяраючы актыўнасць сяброў у сацыяльных сетках. Абмежаванні ў карыстанні месенджарамі, напрыклад, могуць стаць добрым спосабам знайсці шмат вольнага часу.

**4 Выкарыстоўвайце свой смартфон.**

Мы даўно перасталі браць у рукі тэлефоны толькі для званкоў. Чаму б не выкарыстоўваць іх для малітвы? Такія мабільныя дадаткі, як "Малітоўнік", "Цытаты з Бібліі", "Малітва ў дарозе" ці проста "Радыё Марыя", павінны быць у нашых гаджэтах.

**5 Маліцеся ў дарозе.**

Дарога на працу або вучобу – выдатная магчымасць для малітвы. Дзвццаць хвілін на аўтобусе дастаткова, напрыклад, каб памаліцца на Ружанцы.

**6 Памятайце: усё, што вы робіце, – гэта малітва.**

Выкажам здагадку, што ваша праца, вучоба, адпачынак і любы іншы занятак, – гэта малітва. Не важна, пішаце вы справаздачу для начальніка на працы ці рыхтуецеся да сесіі: Бог хоча прысутнічаць у кожны момант вашага жыцця.

**7 Не засынайце, не падзякаваўшы Богу за тое, што адбылося сёння.**

Падзяка – добры спосаб завяршыць дзень. Гэта таксама выдатная магчымасць для малітвы. Нават калі вы вельмі стаміліся, у некалькіх словах аддайце Богу дзень, які падышоў да канца.

*Паводле deon.pl*
*Пераклад* ***Марыны Сінкевіч***



## *Расказваюць катэхеты:*

# Цікавыя выпадкі на занятках рэлігіі

**Урокі рэлігіі часта бываюць вельмі захапляльнымі і запамінальнымі. Напярэдадні новага навучальнага года катэхеты падзяліліся з “Каталіцкім Веснікам” некаторымі цікавымі і вясёлымі гісторыямі са сваёй выкладчыцкай практыкі.**



**Сястра Наталля Дрэма, палатынка:**

– На сённяшні дзень я служу ў Воранаве. Катэхізую ўжо дзесяць гадоў. Раскажу некалькі гісторый з таго часу, калі я яшчэ працавала ў іншай парафіі. На адной з катэхез падыходзіць да мяне дзяўчынка, тады мы гаварылі пра сям’ю, і кажа: “Вось, сястра, Вам так пашанцавала, у Вас такі круты муж”. Я стаю і думаю, што будзе далей, а яна працягвае: “Чаму ён толькі ягня, не магу зразумець...” Я разгубілася і гавару: “Так, муж Баранак Божы”.

Вось яшчэ адно папулярнае пытанне ад дзяцей: “Цёця, а ты свой капялюш часта здымаеш?” А потым гучыць прапанова: “Давай паглядзім, што там, я нікому не скажу”.



**Аліна Міхалевіч, выкладае ў Гудагаі, Солах і Барунах:**

– Гэта гісторыя для мяне стала не толькі камічнай, але і ў пэўным сэнсе павучальнай. Больш чым дваццаць гадоў таму, працуючы тады ў Солах, я тлумачыла дзецям таямніцу Святой Тройцы. Адзін хлопчык вельмі хацеў зразумець яе. Усе ішлі дамоў, а ён заставаўся і некалькі катэхез запар задаваў мне пытанні пра Бога, Езуса, пра Святога Духа. Аднойчы ён прыйшоў на занятні з радасным ва̀чыма і кажа: “Я зразумеў таямніцу Святой Тройцы. Святая Тройца – гэта так, як у казцы “Змей Гарыныч”: адно цела і тры галавы”. Канешне, тады ўся група пасмяялася з яго. Я ж усвядоміла, наколькі важна было для дзіцяці зразумець гэту таямніцу.

Пазней я сустрэлася з гэтым ужо дарослым мужчынам у Гудагаі, калі рыхтавала яго да шлюбу. Я не адразу яго пазнала, ён жа пазнаў мяне і кажа: “Я памятаю той момант, калі на занятках задаваў Вам столькі пытанняў адносна Святой Тройцы. Але і сёння я да канца не разумею гэтай таямніцы і схіляюся перад ёй”.



**Ірына Лісічкіна, вяла заняткі ў парафіі св. Яна Евангеліста і св. Максімільяна Кольбэ ў Мінску, зараз у дэкрэтным адпачынку:**

– Прыгадваю некалькі цікавых выпадкаў. Аднойчы была катэхеза пра Імшу. Я распавядала дзецям, што святая Імша пачынаецца знакам крыжа. Адна дзяўчынка глядзіць на мяне і кажа: “Не-е, Вы параблыталі, Імша пачынаецца з песні!”

Таксама была гісторыя з хрысціянскім прывітаннем. Доўгі час я засяроджвала ўвагу дзетак, што ў касцёле мы не кажам адна аднаму “здрасце”, а толькі “Хвала Хрысту”. І адзін хлопчык ніяк не мог запомніць. Шмат разоў паўтарылі: “Хвала Хрысту – Хвала на векі”, але ў яго ніяк не атрымлівалася. І вось праз пару дзён пасля катэхезы сустракаю яго ў касцёле, а ён мне кажа: “Здрасце… Не, не “здрасце”... Як гэта? А-а-а, Слава Богу!” Паўсміхаліся з ім. Лепш Слава Богу, чым ніяк або “здрасце”.



**Сястра Дар’я Еўтухоўская, салезіянка. Цяпер служыць у Бараўлянах:**

– Катехезу вяду прыкладна дзесяць гадоў. Раскажу дзве цікавыя гісторыі. Першая здарылася на аплатковай сустрэчы з дзецьмі. Адзін хлопчык, ламаючы аплатак, з сур’ёзным выглядам сказаў: “Віншую Вас са святам Божага Нараджэння і жадаю, каб вас ніколі не звольнілі”.

Другая гісторыя наступная. Рыхтавалі аднойчы з дзецьмі невялічкае выступленне на катэхезе. Напачатку я расказала пра Звеставанне. Потым была магчымасць разыграць сцэнку. Дзеці былі ў ролі Анёла і Марыі. Неабходна было выбраць правільныя словы і перадаць гісторыю. Спачатку ўсё ішло па сцэнарыі. А далей здарылася наступнае..

Анёл: “Ты будзеш мамай Сына Божага?”

Марыя: “Не, не буду”.

Анёл: “Будзеш, будзеш. Да пабачэння”. І выйшаў.



**Наталля Лаўрэнка, дырэктар Нядзельнай школы пры касцёле св. Сымона і св. Алены, Мінск:**

– Гэта адбылося каля дваццаці гадоў таму. Набліжаўся Чысты чацвер, таму з дзеткамі першага года падрыхтоўкі да Першай Святой Камуніі мы ўспаміналі падзеі таго вялікага дня для ўсіх хрысціян.

“Таму, дзеткі, перад тым, як распачаць Апошнюю Вячэру, Езус памыў сваім вучням-апосталам ногі, – гавару я і задаю пытанне: – А каму са сваіх блізкіх вы б змаглі памыць ногі?”

Дзеці адразу пачынаюць цягнуць рукі і сыплюць адказамі: “Я магу памыць ногі маме!”, “А я – тату”, “А я – бабулі...”

“А я – нікому”, – сур’ёзна адказвае рудавалосы Стасік, падняўшыся са свайго месца.

“Добра, дзеткі, дзякую вам за адказы”, – падагульняю я і кажу, што праз мыццё ног Езус праявіў сваю любоў да апосталаў, а таксама ачысціў іх ад грахоў...

Прайшоў год. Ізноў набліжаецца Вялікі чацвер. Ідзе катэхеза з тымі ж дзецьмі, але на іншую тэму, таму я толькі нагадваю, што хутка Чысты чацвер. І раптам бачу адну паднятую руку. Гэта Стасік: “Наталля Уладзіміраўна, я зараз ведаю, каму магу памыць ногі. У мяне нарадзілася маленькая сястрычка, я ёй цяпер ногі мыць магу!!!”

*Гутарыла* ***Ірына Радзевіч***



# Парафіяльны фэст з удзелам арцыбіскупа Кандрусевіча прайшоў у Канстанцінаве

**15 жніўня арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч узяў удзел у святкаванні адпустовай урачыстасці ў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Канстанцінаве (Мядзельскі дэканат).**

■ **Кс. Мікола Гракаў,** *catholic.by, тэкст*;
**Леанід Юрык,** *фота*

Візіт арцыпастыра быў прымеркаваны да 30-годдзя аднаўлення ў парафіі нармальнага душпастырства пасля перыяду ганенняў, калі ў Канстанцінаве не было святара. Такая сітуацыя працягвалася доўгія пяцьдзясят гадоў, пакуль у 1990 годзе тут не з’явіліся айцы-кармеліты босыя.

Яны адрадзілі парафіяльнае жыццё, аднавілі святыню і пабудавалі новы вялікі парафіяльны дом, у якім у гэтым прыгожым азёрным краі ўлетку збіралася моладзь з розных мясцін на супольны адпачынак з Богам.

З 2014 года пробашчам парафіі з’яўляецца ксёндз Алег Мурзіч, які працягвае справу папярэднікаў. Вітаючы арцыпастыра, ён адзначыў, што магчымасць супольнай малітвы – вялікая радасць і сапраўднае свята для гэтай парафіяльнай сям’і.

На фэст сабраліся вернікі з усяго наваколля, дзе абсалютную большасць жыхароў складаюць католікі. Перад тым, як пайсці ў касцёл, многія з іх заходзілі на парафіяльныя могілкі, каб запаліць знічы на магілах сваіх продкаў і блізкіх і памаліцца аб вечным жыцці для іх.

У Канстанцінава на парафіяльную ўрачыстасць прыбылі святары з суседніх парафій: Мядзельскі дэкан ксёндз-канонік Багуслаў Маджэеўскі са Свіра, айцы-кармеліты босыя з Нарачы, а таксама прадстаўнік Віцебскай дыяцэзіі ксёндз Аляксандр Баран з Лынтупаў.

Арцыбіскуп Кандрусевіч, які напярэдадні здзейсніў асвячэнне касцёла ў Барысаве – даволі вялікім горадзе, – адзначыў, што яму вельмі прыемна ўдзельнічаць у простым вясковым фэсце з яго неадменным кірмашом і непаўторнай атмасферай блізкасці ўсіх прысутных, дзе ўсе адно аднаго ведаюць. Тут сапраўды адчуваецца дух сям’і, сабранай у імя Марыі – добрай і пяшчотнай Матулі ўсіх дзяцей Касцёла.

Напачатку арцыбіскуп шчыра падзякаваў тутэйшым вернікам за малітву і духоўную падтрымку ў складаны для яго перыяд, калі ён на працягу чатырох месяцаў не мог вярнуцца на Бацькаўшчыну.

У прамоўленай на святой Імшы гаміліі арцыпастыр звярнуў увагу на тое, што Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі – гэта праўда нашай веры, якая не толькі ўзвялічвае Марыю як Багародзіцу, але таксама паказвае мэту нашага жыцця – Нябеснае Валадарства.

“Веравучэнне Каталіцкага Касцёла аб Унебаўзяцці Марыі сцвярджае, што пасля завяршэння Яе зямнога жыцця Яна з целам і душой была ўзнята на неба. Гэта значыць, што цяпер целы двух людзей – Езуса і Марыі, Сына і Маці, – знаходзяцца на нябёсах. Сённяшняе свята падкрэслівае святасць чалавечага цела і прызначэнне да вечнай славы. Унебаўзяцце Марыі таксама пацвярджае праўду пра тое, што ўвесь чалавек з целам і душой збаўлены і прызначаны для вечнага шчасця”, – адзначыў арцыбіскуп Кандрусевіч, дадаўшы, што ўшанаванне Багародзіцы дапамагае нам лепш зразумець таямніцу Езуса.

“Езус пакінуў нам Марыю як нашу духоўную Маці. Мы – Яе дзеці, і таму нам таксама трэба старацца быць падобнымі да Яе і следаваць за Ёю”, – сцвердзіў заслужаны іерарх.

На заканчэнне ўрачыстасці адбылася працэсія вакол касцёла з Найсвяцейшым Сакрамантам, пасля чаго арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч здзейсніў абрад благаслаўлення кветак, зёлак і пладоў, што традыцыйна адбываецца ва ўрачыстасць Унебаўзяцця, якая ў народзе называецца таксама святам “Маці Божай Зельнай”. Гэты абрад з’яўляецца сведчаннем удзячнасці Богу за ўсе Яго дары і нагадвае хрысціянам пра неабходнасць увесь час прыносіць у жыцці плады добрых учынкаў.

# Жыццё “на краі зямлі”: беларускі манах пра служэнне ў Астрахані

**Беларускі манах-францішканін Дзмітрый Лукша ўжо дзевяць гадоў служыць у Астрахані. Законнік даў інтэрв’ю “Каталіцкаму Весніку” напярэдадні свайго ад’езду ў Расію.**



**– У кожнай духоўнай асобы ёсць свая цікавая і прыгожая гісторыя паклікання. Раскажыце, калі ласка, сваю.**

– Я лічу, што пакліканне нараджаецца з таго моманту, як толькі чалавек прыходзіць у касцёл. Мяне ў святыню прывялі ў дзяцінстве. Пасля Першай Камуніі я стаў міністрантам. У нашай парафіі ў Астраўцы дапамагалі служыць айцы-францішкане з Польшчы. У той час адбылося першае маё знаёмства з гэтым ордэнам. У нейкай ступені ўжо тады нарадзілася маё пакліканне. Ужо тады Бог меў пэўны план адносна мяне, міністранта, якому было прыкладна дзевяць гадоў. Мае першыя ўражанні пра манахаў – вельмі наіўныя, бо я глядзеў адразу на іх адзенне. Законнікі мяне заўсёды натхнялі, асабліва калі наш закрыстыянін казаў: “Гэта не проста святары, яны “вышэй”. Гэта моцна кранала.

Пасля 9-га класа я паступіў на майстра па рамонце і пашыве абутку. Аднойчы ў цягніку сустрэў аднаго міністранта, брат якога быў першым ксяндзом з Астраўца. Пакуль мы ехалі, ён мне расказваў пра жыццё гэтага святара. Яго аповед мяне моцна ўразіў і стаў пэўным пачаткам у ажыццяўленні майго пакліканне. Пасля першага курса я вырашыў пайсці ў семінарыю. Хацеў кінуць вучобу, але маці параіла адразу давучыцца. Я паслухаў яе і скончыў вучылішча датэрмінова. Пасля паступіў у Вышэйшую духоўную семінарыю ў Гродне. Але думкі пра манаства мяне не пакідалі. Гісторыю Касцёла ў семінарыі выкладаў францішканін айцец Юзаф, чалавек вельмі пазітыўны і вясёлы. Я захапляўся яго аптымізмам. Усё ж пакінуць семінарыю было вельмі складана.

**– Як урэшце выйшла, што Вы сталі манахам, а потым апынуліся ў Расіі?**

– Так атрымалася, што, навучаючыся ў семінарыі, я аднойчы не здаў два залікі. Тады дакладна вырашыў, што пайду ў манастыр. Але пасля трох месяцаў прабывання ў Польшчы мне сказалі, што ў мяне няма паклікання і адправілі дамоў. Тады айцец Юзаф параіў мне паехаць да братоў у Расію. Ужо назаўтра я адправіўся туды і знаходжуся там па сённяшні дзень.

**– Цікава, якая розніца паміж святаром-манахам і проста братам-манахам?**

– Святар-манах адпраўляе святую Імшу, спавядае, удзяляе сакраманты. Манах, які не з’яўляецца святаром, займаецца ў асноўным хатняй гаспадаркай, можа праводзіць катэхезу. Розніца ёсць і ў навучанні. Паколькі я вучыўся проста на брата, а не на святара, у семінарыі я быў вольным слухачом. Я хадзіў на выбарачныя прадметы. Семінарысты здаюць усе экзамены і залікі, вольны слухач жа здае толькі пэўныя дысцыпліны, пра якія дамаўляецца яго настаяцель. Але здае абавязкова, бо гэта частка манаскай фармацыі. Напрыклад, “Маральную тэалогію” я здаваў па свайму асабістаму жаданню. Таксама мае адзнакі ні на што не ўплывалі.



**– Чым у асноўным Вы займаецеся штодня?**

– У манастыры я адказваю за кухню і гатую ежу для братоў, забяспечваю манастыр усімі неабходнымі ў гаспадарцы рэчамі. Штодня адчыняю касцёл, падрыхтоўваю ўсё патрэбнае да Імшы, сачу за чысцінёй літургічнага адзення, адказваю за тэрыторыю каля святыні. Таксама праводжу экскурсіі для турыстаў, расказваю ім пра гісторыю касцёла і пра жыццё нашых манахаў.

**– Колькі чалавек служыць разам з Вамі?**

– Усяго ў Астрахані служаць тры чалавекі. Адзін манах-святар з Польшчы і два браты-манахі з Беларусі.

**– З гісторыі вядома, што Астрахань заўсёды вызначалася этнічнай разнастайнасцю. Раскажыце крыху пра Вашу парафію сёння, хто яе наведвае?**

– У Астраханскім рэгіёне прыкладна тысяча каталікоў. У нашай парафіі ёсць недзе дзвесце чалавек. Аднак на самай справе на нядзельную Імшу да нас прыходзіць каля 60-70 вернікаў. У будні дзень ўвогуле толькі адзіндва чалавекі. Сярод тых, хто наведвае святыню ў нядзелю, значная частка студэнтаў з Афрыкі. Сапраўды, наша парафія складаецца з розных нацыянальнасцей. Ёсць вернікі армянскай нацыянальнасці, прыходзяць сем’і, дзе муж паляк, а жонка руская. Наведваюць парафію і тыя, хто калісьці пераехаў з Украіны. Чыста рускія сем’і ёсць, але больш з нямецкімі каранямі.

**– Якія адносіны ў мясцовых каталікоў з мусульманамі?**

– Наша парафія знаходзіцца ў мусульманскім раёне, які з’яўляецца тэрытарыяй павышанай небяспекі. Таму настаяцелю даводзіцца афармляць антытэрарыстычны пашпарт, з якім заўсёды шмат валакіты. Часам здаралася, што на дзень ПДВ былі сутычкі паміж дэсантнікамі і мусульманамі. Аднойчы прадстаўнікі АМАП папрасілі нас нават выйсці з касцёла і правесці малітву дома, бо заставацца там было небяспечна. З боку мусульман да нашай парафіі ніколі не ўзнікала ніякіх пытанняў. Іх муфтый (асоба вышэйшага мусульманскага духавенства) ставіцца да нас з павагай. На вуліцы, калі хтосьці з мусульман бачыць, што я іду ў касцёл па пешаходным пераходзе, заўсёды прыпыняецца. На жаль, рускія часта могуць праехаць, не спыніўшыся.

**– А якая сітуацыя з мясцовымі пакліканнямі?**

– З пакліканнямі ўсё складана. З нашай парафіі ёсць толькі адна дзяўчына, якая нядаўна пайшла ў кляштар. Калі казаць пра францішканаў, то ў Расіі ёсць толькі адзін брат з Калмыкіі.

**– У Беларусі духоўныя асобы часта сустракаюцца на спецыяльна арганізаваных сустрэчах. Ці праводзіцца штосьці падобнае ў Вашай дыяцэзіі?**

– Наш біскуп любіць арганізоўваць сустрэчы за мяжой для духоўных асоб нашай дыяцэзіі раз на два гады. Дарэчы, на адной з такіх сустрэч у Чэнстахове я на сваё здзіўленне сустрэў знаёмую манахіню з маёй роднай Астравецкай парафіі. Раз на год мы сустракаемся таксама ў Расіі. Часта рабіць штосьці падобнае няма магчымасці праз вялікія адлегласці. Толькі наш дэканат цягнецца каля 400 км. І такіх дэканатаў у нашай Саратаўскай дыяцэзіі шмат, з адлегласцю паміж сабой ад 300 да 1000 км. Калі атрымаецца, то наступны раз мы ўсёй дыяцэзіяй сустрэнемся ў Дамбаі, на Каўказе. Нашы дыяцэзіяльныя духоўныя сустрэчы – гэта найбольш яркія моманты, бо мы бачымся вельмі рэдка. Усе з розных краін: з Беларусі, Польшчы, Аргенціны, Мексікі, Індыі, Інданэзіі і г.д. Кожны са сваёй культурай, традыцыяй. Такія сустрэчы нас як місіянераў вельмі аб’ядноўваюць.

**– Як выглядае Ваша споведзь, калі паміж парафіямі такая вялікая адлегласць?**

– Жывучы ў Расіі, я пачаў шанаваць споведзь. Калі ж знаходзіўся ў Беларусі, пабач было шмат святароў, багата выбару. Ад Астрахані да найбліжэйшай парафіі – 420 км. Каб паспавядацца, трэба ехаць вельмі доўга. Увечары я сядаю на цягнік, які толькі ранкам прыбывае ў Валгаград. Еду на споведзь да айцоў-вербістаў, у іх знаходжуся ўвесь дзень. Назад зноў такі ж доўгі шлях. На жаль, да нас святары прыязджаюць вельмі рэдка, бо мы знаходзімся “на краі зямлі”, далей толькі мора. Часам даводзіцца спавядацца ў свайго настаяцеля, што не рэкамендуецца. Ёсць яшчэ адзін выратавальны момант: з дазволу мы маем права спавядацца ў святароў іншай канфесіі, напрыклад, у армянскага святара, што я часам і раблю.

**– Якія галоўныя адрозненні каталікоў Беларусі і Расіі Вы можаце назваць?**

– Калі беларус прыходзіць у касцёл, ён становіцца на два калены. У Астрахані я бачу такое вельмі рэдка. У асноўным становяцца на адно калена або робяць паклон. У гэтым нічога страшнага няма, але гэта крыху не па нашай каталіцкай традыцыі. Аднойчы да нас прыйшлі чатыры чалавекі, якія сталі на калені. Тады я зразумеў, што гэта не мясцовыя вернікі. І сапраўды, гэта былі спартсмены з Беларусі, якія гулялі за гандбольную каманду Астрахані. Было бачна, што іх выхоўвалі ў традыцыйнай каталіцкай сям’і. У размовах з мясцовымі вернікамі, у іх паводзінах таксама бачна, што няма каталіцкага падмурку. Так адбываецца, бо сярод мясцовых вернікаў шмат хто перайшоў у каталіцтва з пратэстантызму, праваслаўя або проста стаў вернікам у дарослым жыцці.

*Гутарыла* ***Ірына Радзевіч***



## Святая Ганна традыцыйна сабрала вернікаў у Мосары

**26 ліпеня, калі Каталіцкі Касцёл узгадвае святых Яўхіма і Ганну, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі, парафія святой Ганны ў Мосары адзначыла адпустовую ўрачыстасць.**

■ **Леанід Юрык**, *тэкст і фота*

Пабудаваная яшчэ напрыканцы XVIII стагоддзя святыня традыцыйна збірае вернікаў на адпуст. На свята, якое распачалося апоўдні, завітаў дарагі госць для гэтай парафіі – ксёндз-канонік Ян Крэміс. Урачыстую Літургію цэлебраваў пробашч Марат Казлоўскі.

У слове да вернікаў ксёндз Марат падкрэсліў ролю старэйшага пакалення ў духоўнай апецы над моладдзю, нагадаў, як бабулі і дзядулі прыкладам свайго жыцця захавалі і перадалі веру нашчадкам. Згаданая тэма была нездарма закранутая, бо на дзень раней, 25 ліпеня, Касцёл упершыню адзначыў Сусветны дзень дзядуляў, бабуль і пажылых людзей: сваё рашэнне Папа Францішак абвясціў яшчэ 31 студзеня. Пачынаючы з гэтага года, свята будзе адзначацца ў чацвёртую нядзелю ліпеня.

А на заканчэнне святой Імшы мосарскія парафіяне ўшанавалі сваю нябесную заступніцу Літаніяй да святой Ганны, эўхарыстычнай працэсіяй і спевам гімна Te Deum.





**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

### Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Біблійныя постаці



Новы тэст "Каталіцкага Весніка" прапануе праверыць свае біблійныя веды і яшчэ раз звярнуць увагу на вобразы людзей, якія сустракаюцца ў Святым Пісанні.

**1** Хто такі Акіла?



**А.** Язычніцкі ідал
**Б.** Адзін з апосталаў
**В.** Муж Прыскілы

**2** Каго Бог выкарыстаў для таго, каб вывесці Свой народ з Егіпта?



**А.** Абрагама
**Б.** Якуба
**В.** Майсея

**3** Назавіце чалавека, які забіў гіганта Галіяфа?



**А.** Давід
**Б.** Саул
**В.** Саламон

**4** Хто быў першым каралём Ізраэля?



**А.** Давід
**Б.** Саул
**В.** Саламон

**5** Бацькам Ісаака быў:



**А.** Абрагам
**Б.** Якуб
**В.** Захарыя

**6** Імя першага мучаніка за веру:



**А.** Пётр
**Б.** Стэфан
**В.** Барнаба

**7** Імя жонкі Майсея?



**А.** Рэбэка
**Б.** Альжбета
**В.** Сепфора

**8** Імя першынца Адама і Евы?



**А.** Абэль
**Б.** Хам
**В.** Каін

**9** Імя знакамітага настаўніка, які навучаў апостала Паўла?



**А.** Каяфа
**Б.** Гамаліэль
**В.** Сакрат

**10** Якога прарока Гоcпад паслаў прапаведаваць у Ніневію?



**А.** Ёна
**Б.** Амоса
**В.** Міхея

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на віктарыну: старонка 16**

## На верасень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1** верасня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*; **імяніны** адзначае **а. Бранiслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*;

**4** верасня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Антон Лагунёнак** *(Віцебск)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Юрый Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**9** верасня – **імяніны** адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**17** верасня – **дзень нараджэння** адзначае **а. Зміцер Грышан** *(Віцебск)*;

**18** верасня – **імяніны** адзначае **а. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**19** верасня – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Бягомль)*;

**20** верасня – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Уладзімір Грыгор'еў**;

**21** верасня – **дзень нараджэння** адзначаюць **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*, **а. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**22** верасня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. канонік Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*;

**26** верасня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. канонік Андрэй Аніскевіч**, дырэктар "Карытас" *(Віцебск)*;

**28** верасня – **імяніны** адзначаюць **кс. Вячаслаў Барок**, **кс. Вячаслаў Пялінак**, **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Ідолта)*, **а. Вадзім Мізер MIC** *(Орша)*;

**29** верасня – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*; **імяніны** адзначаюць **а. Міхаіл Ермашкевіч OP** *(Сянно)*, **кс. Міхаіл Татарэнка**.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Каляндар на верасень



**3 верасня – успамін св. Грыгорыя Вялікага, Папы і доктара Касцёла.**

Нарадзіўся Грыгорый Вялікі каля 540 г. у шляхетнай і багатай рымскай сям'і. Вядома, што ён вызначаўся вялікай вучонасцю, у 574 годзе заснаваў манастыр св. Андрэя ў сваіх уладаннях у Рыме і стаў у ім манахам. У саракагадовым узросце прыняў пасвячэнне дыяканату з рук Папы Пелагія II і на працягу сямі гадоў выконваў абавязкі нунцыя пры двары цэзара ў Канстанцінопалі. У 590 годзе, пасля смерці падчас чумы Пелагія II, становіцца Папам. Пры яго пантыфікаце да Касцёла былі далучаныя тры вялікія народы: прынялі хрысціянства англічане, а таксама навярнуліся з арыянскай ерасі лангабарды і іспанцы. Яго імя запісана ў гісторыі музыкі і літургіі, таму што ён сістэматызаваў літургічны спеў, пазней вядомы як "грыгарыянскі спеў". Ён таксама кадыфікаваў рымскі канон і дадаў да святой Імшы малітву "Ойча наш", якая прамаўляецца адразу пасля Эўхарыстычнага канона. У 600 годзе ўвёў лацінскую мову як адзіную ў літургіі Заходняга Касцёла. Святы Грыгорый увёў таксама так званую Грыгарыянскую святую Імшу за памерлых, якая адпраўляецца на працягу 30 дзён пасля смерці. Грыгорый памёр 12 сакавіка 604 г. у Рыме і быў пахаваны ў базіліцы св. Пятра. Святы Грыгорый Вялікі з'яўляецца адным з чатырох заходніх Айцоў Касцёла і лічыцца апекуном музыкантаў, спевакоў і харыстаў, а таксама касцельных школаў.



**8 верасня – Свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята прысвечана ўспаміну нараджэння Маці Езуса Хрыста. У Новым Запавеце падаецца вельмі мала звестак пра жыццё Багародзіцы, і падзея, якая адзначаецца ў гэты дзень, зафіксавана толькі ў касцельным паданні, каторае расказвае, што бацькамі Панны Марыі былі пабожныя Яўхім з роду цара Давіда і Ганна – з роду першасвятароў. Панна Марыя нарадзілася па адмысловым зароку Бога, дадзеным Яўхіму і Ганне, калі яны былі ўжо ў сталым узросце. Святкуючы Нараджэнне Багародзіцы, хрысціяне падкрэсліваюць, наколькі важная роля адведзена Панне Марыі ў ажыццяўленні плану выратавання чалавецтва. Першыя згадванні пра свята Нараджэння Багародзіцы датуюцца другой паловай V стагоддзя. Прыкладна ў гэты ж час падзея была ўключана ў касцельны каляндар.



**14 верасня – свята Узвышэння Святога Крыжа.**

Лічыцца, што 14 верасня 335 г. адбылося асвячэнне святыні над пячорай Гроба Пана, у якім устанавілі знойдзены Крыж Збаўцы (адшукала крыж святая Алена – маці імператара Канстанціна). Каб шматлікія хрысціяне, прысутныя на ўрачыстасці, маглі ўбачыць вялікую святыню, біскуп узнімаў ("узвышаў") Крыж над галовамі людзей. У Рыме свята было ўведзена Папам Грыгорыем I.



**15 верасня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.**

Марыя трывала ў адзінстве са сваім Сынам аж да крыжа, пад якім стала згодна з Божым намерам. Глыбока цярпела разам са сваім Сынам і злучылася матчыным сэрцам з Яго ахвяраю. Найсвяцейшая Панна, ахвяруючы Езуса ў святыні і цярпячы разам са сваім Сынам, Які паміраў на крыжы, асаблівым чынам супрацоўнічала са справаю Збаўцы праз веру, надзею і гарачую любоў, каб аднавіць звышнатуральнае жыццё душ.



**21 верасня – свята св. Мацвея, апостала і евангеліста.**

Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпет і Эфіопію. Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.



**23 верасня – успамін св. Піа з П'етрэльчыны, святара.**

Франчэска Фарджонэ – будучы айцец Піа – нарадзіўся 25 мая 1887 г. у П'етрэльчыне (Паўднёвая Італія). У шаснаццацігадовым узросце ўступіў у закон капуцынаў і праз сем гадоў прыняў святарскае пасвячэнне. У 28 гадоў айцец Піа атрымаў стыгматы – раны, як у Езуса Хрыста, што прычынялі яму нясцерпны боль. З-за накладзеных на яго абмежаванняў падрэ Піа прысвяціў сябе паглыбленаму духоўнаму жыццю, асабліва культу Эўхарыстыі, Мукі Пана і Маці Божай Балеснай, а таксама апостальству споведзі. Айцец Піа вядомы таксама як містык: ён меў дар білакацыі (адначасовага знаходжання ў двух месцах), дары моваў, чытання ў сумленні, прадказання будучыні. Акрамя таго, ён заснаваў Дом палёгкі ў цярпенні – сучасную медыцынскую ўстанову, якая разам з тым з'яўляецца месцам малітвы і навукі, а таксама міжнародны малітоўны рух, што ахоплівае сотні груп вернікаў па ўсім свеце. Падрэ Піа памёр 23 верасня 1968 г. у Сан-Джаванні Ратонда, дзе і быў пахаваны. Праз трыццаць гадоў пасля смерці ён быў беатыфікаваны, а ў 2002 г. кананізаваны.



**29 верасня – свята святых Арханёлаў Міхаіла, Габрыэля, Рафаіла.**

Святы Арханёл Міхаіл – апякун Касцёла ў Беларусі. Імя "Міхаіл" некалькі разоў узгадваецца ў Святым Пісанні і азначае "Хто як Бог". У Евангеллі гаворыцца яшчэ пра аднаго Арханёла – Габрыэля, які прадказаў святару Захарыю нараджэнне сына – святога Яна Хрысціцеля, а Панне Марыі звеставаў нараджэнне Езуса Хрыста. Арханёл Рафаіл згадваецца ў старазапаветнай кнізе Тобія. Лічыцца, што ён ахоўвае людзей ад хваробаў і ранаў.

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

*Біскуп Буткевіч:*

# Папа Францішак заклапочаны тым, што адбываецца ў Беларусі



**9 жніўня на партале Папскага фонду "Дапамога Касцёлу ў патрэбе" Acninternational.org было апублікавана інтэрв'ю з біскупам Віцебскім Алегам Буткевічам, у якім Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі распавядае пра тое, чым жыве сёння Касцёл у краіне, і дзякуе дабрачынцам за духоўную і матэрыяльную падтрымку.**

Партал Catholic.by прапануе пераклад размовы кіраўніка беларускага каталіцкага епіскапату з прадстаўніком Папскага фонду "Дапамога Касцёлу ў патрэбе" Мар'яй Ладзана *(Maria Lozano, Acninternational.org).*

**— Беларусь перажывае цяжкі крызіс. Як Касцёл імкнецца падтрымліваць тут людзей?**

— Перад абліччам падзей, якія адбываюцца ў грамадстве, Касцёл абавязаны рэагаваць і не можа заставацца абыякавым. Акрамя таго, многія людзі, якія маюць да іх дачыненне, належаць да Касцёла. І таму ён імкнецца кранулі іх сэрца, заклікаючы да міру і паяднання, а таксама да дыялогу для вырашэння праблем. Мы таксама прапануем усю магчымую дапамогу: духоўную і псіхалагічную падтрымку, а часам таксама матэрыяльную дапамогу тым, хто апынуўся ў асабліва цяжкім становішчы.

**— Ці адбіваецца гэта таксама на дзейнасці Касцёла?**

— У прынцыпе, крызісная сітуацыя занадта не перашкодзіла і не абмежавала служэнне Касцёла, не лічачы пэўных абмежаванняў, якія закранулі трансляцыю Імшы, і часам павышаны кантроль уладаў дзейнасці некаторых святароў і парафій.

**— Якія пачуцці пераважаюць у вернікаў у адносінах да цяперашняй сітуацыі?**

— Сённяшняя сітуацыя – гэта яшчэ адна нагода для таго, каб больш старанна маліцца, а ў многіх выпадках таксама для таго, каб пераасэнсаваць свае адносіны да Бога і да іншых людзей. Наогул, падобныя сітуацыі толькі паглыбляюць веру.

**— Як пандэмія COVID-19 закранула Беларусь, і што робіць Касцёл для таго, каб пераадолець яе наступствы?**

— Як і паўсюль у свеце, эпідэмія COVID-19 аказала адмоўны ўплыў на грамадскае жыццё і на эканамічнае становішча. Касцёл стаў адным з першых інстытутаў, якія адрэагавалі на пандэмію. Мы прынялі меры перасцярогі, прадугледзеўшы сродкі дэзінфекцыі ў касцёлах, увёўшы нашэнне масак падчас набажэнстваў і захаванне сацыяльнай дыстанцыі. Акрамя таго, пачалі рэалізоўвацца праекты па дапамозе медыцынскім установам набываць неабходныя ахоўныя і санітарныя сродкі. Таксама павялічылася колькасць анлайн-трансляцый Імшаў з парафій. "Дапамога Касцёлу ў патрэбе" неадкладна аказала нам у гэтым моцную падтрымку.

**— Большасць насельніцтва Беларусі належыць да Праваслаўнай Царквы. Як бы Вы ахарактарызавалі адносіны з Праваслаўнай Царквой? Ці існуе экуменічнае супрацоўніцтва, у тым ліку ў сацыяльнай сферы?**

— Мы маем мірныя адносіны з Праваслаўнай Царквой, а таксама з прадстаўнікамі іншых веравызнанняў і рэлігій. Я б іх назваў наогул сяброўскімі, асабліва на ўзроўні чалавечых адносін, а таксама ў змяшаных сем'ях. Усе канфесійныя ці рэлігійныя адрозненні практычна знікаюць, калі ідзе гаворка пра ратаванне людзей. З гэтага пункту гледжання эпідэмію ў пэўным сэнсе можна лічыць фактарам, які, хутчэй, аб'ядноўвае, а не падзяляе.

**— Вялікая колькасць каталіцкіх святароў у Беларусі прыязджае з-за мяжы, перадусім з Польшчы. Ці праблема для іх атрымаць візу? Ці існуе моўны бар'ер з вернікамі?**

— Цяпер ужо большасць нашых святароў паходзіць з Беларусі, аднак мы ўсё яшчэ не можам адмовіцца ад дапамогі святароў з-за мяжы. Мы асаблівым чынам удзячныя польскім святарам за іх шматгадовую працу і ахвярнасць. Іх служэнне ўскладняецца неабходнасцю рэгулярна – раз на год і нават раз на паўгода – атрымліваць дазвол на здзяйсненне рэлігійнай дзейнасці. Гэтага дазволу яны могуць быць у любы момант пазбаўленыя без ніякага тлумачэння прычын. Што датычыцца мовы падчас святой Імшы, тут, наадварот, ніякіх праблем няма. Няма ніякага моўнага бар'еру паміж святарамі з-за мяжы і іх вернікамі.

**— Якім чынам Каталіцкі Касцёл у свеце можа праявіць сваю салідарнасць з беларусамі?**

— Беларусь ужо атрымлівае падтрымку Паўсюднага Касцёла, асабліва малітвы вялікай колькасці манаскіх супольнасцяў, кангрэгацый, парафій і паасобных вернікаў. Мы шчыра ўдзячныя за малітвы і за памяць Яго Святасці Папу Францішку, які заклапочаны тым, што адбываецца ў нашай краіне. Гэтае духоўнае адзінства – галоўная падтрымка для нас у цяперашняй сітуацыі. Прадстаўніцтва Святога Пасаду ў Беларусі стараецца дыпламатычным шляхам дапамагаць жыхарам у гэтыя цяжкія часы знайсці мірнае выйсце з крызісу ў нашай краіне і станоўча паўплываць на яе становішча ў міжнароднай супольнасці.

**— Што Вы можаце сказаць дабрачынцам з "Дапамогі Касцёлу ў патрэбе"?**

— Перш за ўсё мы жадаем выказаць нашую вялікую ўдзячнасць усім дабрачынцам з "Дапамогі Касцёлу ў патрэбе", якія на працягу многіх гадоў дапамагаюць нам аднаўляць касцёлы і развіваць дзейнасць парафій і манаскіх супольнасцяў. Без гэтай дапамогі ў душпастырскай і сацыяльнай сферах мы ніколі не дасягнулі б таго, што сёння маем.

Са свайго боку мы вас запэўніваем у нястомнай малітве, каб Бог узнагародзіў за праяўленую шчодрасць і адкрытасць сэрцаў!

*Пераклад:* ***кс. Мікола Гракаў***

*Катэхеза с. Дар'і Галубковай OV*

# Ці мэта апраўдвае сродкі?

**Пэўна, кожны з нас, рыхтуючыся да святой споведзі ці проста аналізуючы свае паводзіны, неаднойчы задумваўся: мой учынак добры ці дрэнны? Ці можна мае грахі апраўдаць жыццёвымі абставінамі, у якіх я апынуўся? Ці даруецца мне тое зло, што я зрабіў, бо я ж хацеў як лепш?**

Украме прыкладанняў для мабільных прыладаў мне выпадкова сустрэліся гульні – "сімулятары Бога" кшталту "Судны дзень", "Пекла або рай". У іх гульцу прапаноўваецца ацэньваць ўчынкі нейкага персанажа і "адпраўляць" яго ў пекла ці рай, вырашаць, чаго той заслужыў. Маю ўвагу прыцягнулі менавіта самі фармулёўкі ўчынкаў: на некаторых прыкладах сапраўды можна практыкавацца ў маральнай тэалогіі! "Я забіў сваю жонку, але яна моцна пакутавала ад раку" або "Я ўзяў хабар, каб аплаціць вучобу свайму сыну". Нават вернік можа мець клопат з маральнай ацэнкай падобных дзеянняў. Таму варта памятаць пра фактары, якія дапамагаюць гэта зрабіць – крыніцы маральнасці чалавечага ўчынку.

Узгадаем, што чалавечы ўчынак – гэта свядомае і добраахвотнае дзеянне асобы, за якое яна нясе маральную адказнасць. Калі ўчынак застаецца ў згодзе з маральным законам (знешняй нормай) і сумленнем (унутранай нормай), гэта азначае, што ён з'яўляецца добрым, і наадварот. Ва ўчынку традыцыйна вылучаюць тры элементы, якія вызначаюць яго маральную вартасць: прадмет дзеяння, акалічнасці і мэту выканаўцы (інтэнцыю). Усе разам яны называюцца крыніцамі маральнасці. Існуе правіла: чалавечы ўчынак з'яўляецца добрым тады, калі ўсе тры крыніцы згодныя з маральнымі нормамі. Разгледзім іх кожную асобна.

**Прадмет дзеяння.** Гэта вынік дзеяння, да якога яно імкнецца непасрэдна і па сваёй прыродзе, незалежна ад намеру таго, хто выконвае гэта дзеянне. Напрыклад, прадметам крадзяжу заўжды будзе прыўлашчванне чужой маёмасці (не важна, каму яна належыць і ці чалавек крадзе для сябе або каб дапамагчы бедным). Прадметам аборту заўжды з'яўляецца гвалтоўнае выдаленне чалавечай істоты з улоння маці, незалежна ад таго, ці гэта робіцца, каб пазбегнуць скандалу, ці з-за таго, што дзіця мае адхіленні ў развіцці. Прадмет дзеяння – гэта першарадная і вырашальная крыніца для маральнай ацэнкі ўчынку: ці ён яднае нас з Богам, ці аддаляе ад Яго? Учынак, які сам па сваёй сутнасці з'яўляецца дрэнным і спрэчным з Божым пакліканнем (забойства нявіннай асобы, сужэнская здрада), ніколі не можа быць дазволеным незалежна ад таго, якую інтэнцыю меў чалавек, які яго здзяйсняў.

**Акалічнасці.** Гэта агулам усе зменныя фактары, не абавязкова звязаныя з прадметам чалавечага дзеяння, якія, аднак, уплываюць на яго маральную ацэнку. Напрыклад, міласціну чыніць бедны ці багаты, публічна ці ў таямніцы. Хоць могуць існаваць, канешне, і абыякавыя акалічнасці (гэтая міласціна была складзена раніцай ці ўвечары).

Чаму акалічнасці маюць маральнае значэнне? Бо яны здольныя павялічваць або паменшаць добрыя або кепскія вынікі дзеяння, а таксама адказнасць чалавека за гэтае дзеянне. Вось некаторыя прыклады. Возьмем евангельскую гісторыю пра дзве лепты, якія бедная ўдава ахвяравала на святыню. Хоць зусім дробная, яе міласціна была больш дасканалая, чым міласціна багачоў, бо ўдава аддала ўсё, што мела (Мк 12,41-44). Меншым грахом будзе адмовіцца ад веры ў страху перад катаваннямі, чым дзеля атрымання высокай пасады. Крадзеж дваццаці рублёў у небагатага студэнта – гэта значна горшы ўчынак, чым крадзеж такой жа сумы ў прафесара, які добра зарабляе.

Згодна з традыцыяй, якая цягнецца ад Арыстоцеля і Цыцэрона, а пасля – святога Тамаша Аквінскага, можна вылучыць наступныя акалічнасці:

***Хто?*** – які ёсць стан, узрост, прафесія выканаўцы дзеяння (дом быў падпалены дзіцём ці дарослым);

***Што?*** – напрыклад, вартасць рэчы (было скрадзена золата ці жалеза);

***Дзе?*** – акалічнасць месца (сварка ў касцёле ці ў краме);

***Якімі сродкамі?*** – бяруцца пад увагу выкарыстаныя сродкі ці дапамога іншых асобаў;

***Чаму?*** – тут акцэнт робіцца на тым, што знешне паўплывала на рашэнне чалавека (ціск грамадства, страх);

***Якім чынам?*** – спосаб дзеяння (кпіць з бліжняга сам-насам ці адкрыта, пры народзе);

***Калі?*** – акалічнасць часу (падзяліцца ежай падчас галаду)

**Інтэнцыя.** Гэта мэта, якую хоча дасягнуць асоба, што выконвае ўчынак. Менавіта яна надае ўчынку канчатковую вартасць, выказвае яго духоўны бок. Кепская інтэнцыя можа ператварыць і без таго дрэнны ўчынак у яшчэ горшы (забойства з карыслівай мэтай), а абыякавае дзеянне ўчыніць дрэнным (гучна слухаць музыку, каб раздражняць суседзяў). Нават добры ўчынак можа быць зруйнаваны дрэннай інтэнцыяй (напрыклад, малітвы і пасты, каб паказацца людзям). Добрая ж інтэнцыя чыніць лепшым добрае дзеянне, аднак, насуперак ходкаму меркаванню, нават найбольш шляхетная мэта не можа апраўдаць учынак дрэнны па сваёй сутнасці. Нельга растлумачыць рашэнне забіць дзіця ва ўлонні маці тым, што сям'я жыве ў беднасці і не змажа даць яму годнае жыццё, таксама як нельга скрасці цэглу, каб збудаваць з яе касцёл.

Такім чынам, мэта не апраўдвае сродкаў і ніколі нельга чыніць зло, каб з яго атрымалася дабро. Ні добрая інтэнцыя, ні нейкія акалічнасці не могуць выправіць учынак, кепскі па сваёй сутнасці, які нельга злучыць з пакліканнем да жыцця з Богам і камуніі з бліжнім. Калі гэта памятаць, то, з разважлівасцю абапіраючыся на маральны закон і голас сумлення, можна без вялікіх цяжкасцяў распазнаць маральную вартасць учынку і зрабіць правільны выбар.

## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем* ***ксяндза Уладзіміра Шымковіча*** *з Днём нараджэння!*

*Дарагі Ойчанька! Жадаем Вам плёну ў працы на Божай ніве, моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця! Няхай Пан Бог дапамагае Вам у штодзённым жыцці, а Маці Божая апякуецца Вамі і атуляе мацярынскай любоўю!*

*Мы дзякуем Пану Богу за гады, праведзеныя з Вамі, і заўжды з удзячнасцю памятаем пра Вас у малітвах і любім!*

***Парафіяне з Дуброўна***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважаны* ***ксёндз Вячаслаў Адамовіч****! Віншуем Вас з Днём нараджэння (10 жніўня) і складаем самыя сардэчныя пажаданні!*

*Просім Міласэрнага Пана, каб адарыў Вас моцным здароўем, моцай і нязгасным энтузіязмам у шчырым служэнні Богу і людзям! Жадаем Вам душэўнага супакою, радасці, поспехаў у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, добразычлівых людзей побач! Няхай Пан Бог блаславіць кожны момант Вашага жыцця, Маці Божая адорыць сваёй ласкай і апекай, а анёл-ахоўнік засцерагае ад усялякага зла! Жадаем доўгіх гадоў жыцця, мудрасці і цярплівасці!*

*Ад усяго сэрца дзякуем за святыя сакраманты, за Вашу любоў, за парады, за клопат і нялёгкую працу ў нашай парафіі. Нізкі Вам паклон!*

***З павагай, вернікі парафіі Маці Божай Шкаплернай у Ідолце***

*Паважанага* ***ксяндза Вячаслава Адамовіча*** *віншуем з Днём нараджэння! Дасылаем самыя прыгожыя пажаданні: шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і здзяйснення ўсіх мараў!*

*Жадаем Вам, шаноўны Ойча, і Вашым родным Божага блаславення, моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, каб дарога Вашага жыцця заўжды была роўнай, гладкай і асвячалася Божым, нябесным святлом!*

*Дзякуем за добрыя словы, за адкрытае сэрца, за малітву і Вашу прысутнасць!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з вёсак Лявонпаль, Дэмскія, Паташня (Мёрскі раён)***

*Паважанаму* ***ксяндзу Вячаславу Адамовічу*** *з нагоды Дня нараджэння (10 жніўня) і гадавіны святарскага пасвячэння (18 жніўня) ад усёй нашай парафіяльнай супольнасці жадаем здароўя, шмат сіл, душэўнага супакою, радасці на кожны дзень і новых поспехаў у душпастырскай паслузе!*

*Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, побач хай будуць толькі добразычлівыя людзі, а ўсмешка ніколі не сыходзіць з твару!*

*Ад усяго сэрца дзякуем Вам за працу ў нашай парафіі, за лагодную ўсмешку, за добрыя словы, за змястоўныя казанні, за цярпенне, разуменне і падтрымку!*

*Сардэчна дзякуем бацькам нашага ксяндза Вячаслава за выхаванне цудоўнага сына-святара!*

***Касцельны камітэт і вернікі з парафіі Маці Божай Фацімскай у Павяцці***

*Паважанага* ***ксяндза Вячаслава Адамовіча*** *віншуем з Днём нараджэння!*

*Шаноўны Ойча! У Ваш дзень нараджэння прыміце цёплыя, шчырыя віншаванні.*

*Жадаем Вам поспехаў у нялёгкая святарскай справе, Божага бласлаўлення, апекі Маці Божай! Каб здароўе было моцным, творчыя сілы – бясконцымі, а радасць ад плёну ў працы – штодзённай!*

*Нам хочацца сардэчна падзякаваць ксяндзу Вячаславу, што заўжды знаходзіць час памаліцца ў нашых інтэнцыях і нашых просьбах, за нястомную працу, за дар рабіць людзям дабро. Вялікі дзякуй за тое, што ён атуляе нас сваёй пастырскай апекай, запальвае агеньчыкі любові да Бога ў нашых грэшных душах!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з вёсак Асада Дзедзіна, Дзедзіна, Крычава (Мёрскі раён)***

## Хвала Хрысту!



*26 жніўня – Дзень нараджэння ў нашага паважанага* ***пробашча Андрэя Куліка.***

*Шаноўны ксёндз Андрэй! Прыміце нашы шчырыя пажаданні добрага здароўя, сіл і цярплівасці, душэўнага спакою, Божай падтрымкі ва ўсіх справах, багатага плёну ва ўсіх задумах!*

*Шчыра дзякуем за вялікую працу ў нашай святыні! Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі і падтрымлівае ў цярпенні!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі Мёрскай парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча***

*Удзельнікі малітоўнага руху "Маргарыткі" з Падсвільскай парафіі Глыбоцкага раёна віншуюць з Днём нараджэння* ***кс. Андрэя Куліка****, які ён адзначае 26 жніўня. Шаноўны кс. Андрэй! Сардэчна жадаем Вам моцнага здароўя, Божых ласкаў і людской добразычлівасці! Няхай усмешка заўсёды гасцікь на Вашым твары!*

*Мы памятаем Вас і молімся за Вас!*

***З павагай, вернікі касцёла Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса (Падсвілле), Апостальскі рух "Маргарытка"***

## Хвала Хрысту!



*Нашаму паважанаму* ***ксяндзу-вікарыю Аляксандру Дулінцу*** *з нагоды Дня нараджэння (28 жніўня) дасылаем шчырыя віншаванні!*

*Дзякуем Вам, шаноўны ксёндз Аляксандр, што, выконваючы волю Хрыста, Вы імкняцеся наблізіць нас да Пана Бога, напаўніць нашыя сэрцы Божай любоўю! Жадаем Вам моцнага здароўя, цярплівасці і нястомнасці ў святарскім служэнні! Няхай Пан Бог узнагародзіць Вас за ўсе малітвы, за прыклад пабожнасці! Няхай Дух Святы падтрымлівае Вас у цярпенні!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі Мёрскай парафіі Унебаўзяцця НПМ і св. Язафата Кунцэвіча***

## Хвала Хрысту!



*Віншуем з Днём нараджэння (16 жніўня) шаноўнага* ***ксяндза Генадзя Рэйшэля****!*

*Паважаны ксёндз Генадзь! Дасылаем Вам самыя шчырыя пажаданні: няхай святы заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам, няхай Святы Дух атуляе сваім святлом кожны дзень Вашай душпастырскай працы, а Маці Божая клапатліва атуліць сваёй апекай!*

*Хочацца, каб усе чытачы "Каталіцкага Весніка" памаліліся разам з намі за добрага і шчырага святара! Дзякуючы яго намаганням наш Божы храм становіцца яшчэ больш прыгожым і ўтульным! Вялікі дзякуй ксяндзу за цудоўную ўрачыстасць Першай Святой Камуніі і за арганізацыю парафіяльнага фэсту!*

***З малітвай, павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Маці Божай Шкаплернай (аг. Ёды)***

## Хвала Хрысту!



*18 жніўня гадавіну святарскага пасвячэння адзначыў пробашч катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага* ***ксёндз-доктар Валерый Марціноўскі.***

*Шаноўны ксёндз Валерый! Шчыра віншуем Вас з дзявятай гадавінай Святарства! Жадаем плённага служэння, адданасці і даверу Пану Богу, мудрасці, мужнасці і любові да кожнага чалавека, які сустракаецца на шляху! Няхай Дух Святы натхняе на вялікія справы, а Маці Божая Валадарка азёраў атуляе матчынай любоўю і апекай! Дзякуем за працу на карысць нашай супольнасці!*

***З найлепшымі пажаданнямі, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (Віцебск)***

## Хвала Хрысту!



*Добры дзень, паважаная рэдакцыя! У чарговы раз звяртаемся да Вас з просьбай надрукаваць у газеце віншаванне з Днём нараджэння нашаму* ***ксяндзу-пробашчу Віталю Бяленіку****, які ён будзе адзначаць 1 верасня. Шчыра дзякуем за Вашу працу і жадаем усім супрацоўнікам газеты здароўя і далейшай плённай дзейнасці!*

*Паважаны ксёндз Віталь! Хутка Вы будзеце адзначаць свой Дзень нараджэння. З гэтай нагоды прыміце шчырыя віншаванні ад вернікаў парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса з Падсвілля.*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, бясконцага запалу ў служэнні Госпаду і людзям! Няхай кожны дзень прыносіць Вам радасць, напаўняе Вас душэўным супакоем і аптымізмам! Няхай апека Маці Божай заўсёды будзе з Вамі! Няхай плён Вашай працы ўзрастае ў сэрцах вернікаў! Вы – наша апора, наш дарадчык. Усяго Вам найлепшага!*

*1 верасня адзначае Дзень нараджэння* ***ксёндз-пробашч Віталь Бяленік.***

*Шаноўны наш айцец Віталь! Прыміце нашы шчырыя пажаданні добрага здароўя, сіл і цярпення, душэўнага спакою і добрага настрою!*

*Шчыра дзякуем за вялікую працу ў нашай парафіі, за клопат пра кожнага з нас, за прыемную атмасферу і Вашую лагодную ўсмешку! Няхай Пан Бог шчодра адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі!*

***З павагай, Апостальскі рух "Маргарытка" (Падсвілле)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Сёння асаблівым чынам мы віншуем з Днём нараджэння нашага* ***ксяндза-пробашча Мікалая Ліпскага****, які пяты год даязджае да нас з Новалукомля, нягледзячы на дрэннае надвор'е, дождж, град, снег і завіруху!*

*Мы віншуем і молімся за чалавека, які ахвяраваў свае жыццё абвяшчэнню Евангелля, слову Божаму, служэнню свайму народу, Святому Касцёлу і яго вернікам!*

*Сціплы, працавіты, адказны святар стараецца заўсёды пераканаць кожнага верніка ў тым, што Пан Езус павінен жыць у кожным сэрцы, што Бог і яго Любоў павінны стаць сэнсам нашых спраў і думак!*

*Высокая адказнасць кс. Мікалая за нялёгкую святарскую працу, а таксама шчырасць і жаданне сваёй працай зрабіць жыццё парафіян пазнавальным, цікавым і асэнсаваным відавочнае кожнаму верніку!*

*Заслужаныя словы шчырай удзячнасці дасылаем праз газету Вам, паважаны кс.Мікалай, і Вашым бацькам, якія таксама шмат зрабілі для нашай парафіі!*

*Асабліва душэўна праходзяць у нас каталіцкія святы, вельмі прыгожа і ўзнёсла заўсёды гучаць песні, вершы ў выкананні таленавітых беларускіх артыстаў, якіх запрашае для нас кс. Мікалай. Шмат людзей збіраецца на святы, і ўсе гледачы зачараваныя гэтымі святамі цяпла, душэўнай любові і Божай радасці!*

*Няхай Пан Бог шчыра аддзячыць Вам, шаноўны кс. Мікалай, і Вашым бацькам за ўсё добрае, што Вы зрабілі і яшчэ зробіце на карысць нашай парафіі! Шмат сілы і моцы вам!*

*Няхай Міласэрны Бог адорвае Вас патрэбнымі ласкамі!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, парафіяне з г. Чашнікі***

*Віншуем нашага* ***пробашча Мікалая Ліпскага*** *з Днём нараджэння, які ён адзначыў 3 жніўня!*

*Шаноўны ксёндз Мікалай! Віншуем Вас з гэтай нагоды і жадаем Вам моцнага здароўя, поспехаў у працы на ніве святарства, добразычлівых людзей на Вашым шляху!*

*Таксама жадаем моцнага здароўя Вашым бацькам!*

***З павагай, вернікі касцёла Св. Марыі Магдалены з г. Новалукомля і г. Чашнікі***

# Новыя сінанімічныя пары ў сучаснай беларускай мове

**У працэсе развіцця мовы адбываюцца непазбежныя змены на розных яе ўзроўнях. Але найбольш гэта заўважаецца ў лексіцы, паколькі мы штодня нешта чытаем, слухаем, карыстаемся мовай у побыце. І раз-пораз выяўляюцца словы, якія маюць адценне навізны і ўжо гэтым падсвядома прыцягваюць нашу ўвагу.**

Юрась Бабіч, *кандыдат філалагічных навук*

У апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў у беларускай мове назіраецца тэндэнцыя да пашырэння сінанімічных рэсурсаў, калі рэгулярна фіксуюцца эквіваленты да традыцыйных, добра ўсім вядомых слоў і словаформ. І ўсё часцей з'яўляюцца навуковыя працы, дзе сінанімія разглядаецца не як сістэмная з'ява з неабходнай наяўнасцю пэўных прымет, а як здольнасць асобы, індывіда бачыць, усведамляць сэнсавае падабенства моўных знакаў у працэсе пазнавальнай дзейнасці (С. Лебедзева, Ю. Князева і інш.). Пры такім падыходзе актуалізуюцца экстралінгвістычныя фактары, на першы план выходзяць лінгвакультуралагічныя чыннікі. Можна меркаваць, што сінанімічныя пары не заўсёды існуюць у строга акрэсленых умовах, а наадварот, нярэдка перасякаюцца семамі з рэпрэзентантамі іншых сінанімічных радоў у выніку функцыянавання ў межах агульнай матывацыйнай прасторы і падобных камунікацыйных сітуацый. Тут варта прыгадаць і агульны асацыятыўны фон, на якім часта і фарміруюцца новыя сінанімічныя адносіны. Таму колькасць і характар сінонімаў, якія рэальна функцыянуюць у штодзённай практыцы, звычайна не супадаюць з пазначаным у адпаведных слоўніках.

Багаты матэрыял для выяўлення зрухаў у беларускай сінаніміцы дае публіцыстычны тэкст, дзе ў апошнія гады дзякуючы трываламу замацаванню ў камунікацыі шэрагу новых лексем істотна ўзмацніўся і сінанімічны патэнцыял беларускай мовы. Разгледзім апісаныя вышэй з'явы, факты актуалізацыі сінанімічных рэсурсаў мовы праз ужыванне лексем з адценнем навізны на канкрэтных прыкладах з публіцыстычнага дыскурсу.

Так, істотна пашырыўся ва ўжыванні назоўнік ***вазок*** са значэннем 'невялікая павозка спецыяльнага прызначэння': *У Капенгагене з дзіцячымі **вазочкамі** ў большасці гуляюць таты, а не мамы* (Звязда, 13.10.2010); *У адным з вагонаў выдзелена зона для пасажыраў у інвалідных **вазках**, з дзіцячымі **вазкамі**, роварамі і грувасткім багажом* (Наша Ніва, 30.03.2011). У шэрагу выпадкаў ужыванне названай лексемы разам з назоўнікам ***каляска*** дазваляе пазбегнуць нематываванага паўтору, спрыяе сінтагматычнаму ўзбагачэнню кантэксту: *Вялікі **вазок** – вялікія выдаткі. Пустая прастора **каляскі** выклікае ўнутраны дыскамфорт...* (Звязда, 25.06.2011); *У цягніку прадугледжаны кандыцыяванне паветра, мяккія зручныя сядзенні, пляцоўкі для дзіцячых **вазкоў**, веласіпедаў, інвалідных **калясак*** (Звязда, 28.06.2011). Лексему ***вазок*** можна трактаваць як адносна новы моўны элемент, які ўжо, аднак, трывала замацаваўся ў нашай лексіцы. Яго выкарыстанне дае магчымасць не толькі пашырыць нацыянальны слоўнік, але і ўзбагаціць стылістычныя магчымасці беларускамоўнага дыскурсу.

У наступных кантэкстах выкарыстанне сінанімічных паняццяў дапамагае пазбегнуць банальнай таўталогіі і выразна адлюстроўвае вялікія магчымасці нашай мовы: *З тэлефона-аўтамата чалавек паведаміў пра **ўзрыўное прыстасаванне**... Аўтамабіль праверылі, **выбухоўкі** не знайшлі* (Звязда, 8.10.2011); *Помнік **узарвалі** з дапамогай **выбухоўкі*** (Наша Ніва, 18.04.2012); *Пасажыр нібыта пісаў пра планы **ўзарваць выбухоўку*** (Наша Ніва, 5.03.2014). Калі б не адносна новы ў нашай літаратурнай мове назоўнік ***выбухоўка***, было б даволі складана дакладна перадаць сутнасць ідэі: сапраўды, нельга ж сказаць, напрыклад, ***узарваць узрыўчатку***, нават пакінуўшы па-за ўвагай мэтазгоднасць і лагічнасць ужывання ў беларускай мове слова *ўзрыўчатка*. А лексема ***выбухоўка*** якраз і вырашае праблему. Выяўляецца, што розныя лексічныя адзінкі для намінацыі аднаго і таго ж аб'екта рэчаіснасці абумоўлены, бадай, розным бачаннем гэтага аб'екта, што выклікаецца шэрагам пэўных фактараў, у тым ліку і адпаведным узроўнем моўнай свядомасці. Словы, выкарыстаныя з адным і тым жа значэннем, могуць мець розную інтэрпрэтацыю, захоўваючы пры гэтым агульнасць сэнсавага ядра. Сінанімія выклікае на падсвядомым узроўні своеасаблівае пераключэнне індывіда з аднаго сэнсавага аспекту на іншы або, як слушна заўважае расійскі даследчык М. Нікіцін, "пераключэнне кагнітыўнага зместу знака ў план прагматычнага значэння". Сінанімія, такім чынам, успрымаецца не столькі як лексічны факт мовы, колькі як камунікацыйна-прагматычнае рашэнне.

Сінанімічныя сувязі нярэдка ўзнікаюць дзякуючы асноўным кагнітыўным механізмам набыцця і ўспрымання ведаў, якія ўключаюць у сябе і працэсы катэгарызацыі, гэта значыць, фарміраванне сэнсу ў ходзе пазнання нейкіх новых моўных элементаў. Часта падобнымі неалагізмамі выступаюць добра асвоеныя нашай мовай пазычанні. Можна меркаваць, што такім чынам у свядомасці носьбітаў беларускай мовы замацаваліся сінанімічныя пары ***гасцініца – гатэль*** і ***забастоўка – страйк***: *Побач з нашым **гатэлем**... месцілася яшчэ адна **гасцініца*** (Наша Ніва, 6.04.2011); *Наступны блок **гатэляў**, відаць, таксама будзе пабудаваны, бо праца на іх ідзе даволі актыўна. Гэтыя **гасцініцы** заключылі дамовы з сусветна вядомымі сеткамі і атрымалі іх назвы* (Наша Ніва, 18.01.2012); *Экс-дэпутат даручыць кіраванне сваімі **гатэлямі** найбуйнейшаму **гасцінічнаму** аператару свету* (Наша Ніва, 11.04.2012). Форма ***гатэль*** (не ***атэль***, хоць і падобны варыянт зрэдку фіксуецца ў нашых медыях) замацавалася ў беларускай мове "як вынік транслітарацыі пазычанага слова: **hotel → гатэль**..." (П. Сцяцко). Можна сцвярджаць, што па частотнасці ўжывання ў СМІ згаданы назоўнік ужо не саступае лексеме ***гасцініца***, гэта значыць, яны існуюць паралельна, як узаемазамяняльныя апелятывы. Таксама як семантычна тоесныя выступаюць у мове лексемы ***забастоўка*** і ***страйк***, а адначасова і роднасныя ім словы іншых часцін мовы: *Больш за 2 млн дзяржслужачых **страйкуюць** у Вялікабрытаніі* (Загаловак)... *У Вялікабрытаніі праходзіць масавая і самая буйная з 1979 года **забастоўка** дзяржслужачых* (Звязда, 1.12.2011); *У Эстоніі настаўнікі праводзяць **страйк*** (Загаловак). *Падчас **забастоўкі** настаўнікаў на вуліцы і плошчы гарадоў выйдуць больш за 15 тыс. чалавек* (Звязда, 6.03.2012); *Супрацоўнікі папяровых камбінатаў перадумалі ісці на **забастоўку** салідарнасці. Прафсаюзы дамовіліся з працадаўцамі літаральна за пяць з паловай гадзін да афіцыйнага аб'яўлення **страйку*** (Звязда, 17.04.2012); *Брытанскія прафсаюзы заклікалі на **страйк** 400 тысяч дзяржслужачых* (Загаловак); *Цяперашняя **забастоўка** справакаваная тым, што... зноў прагучалі словы пра непапулярныя ў насельніцтва эканамічныя рэформы* (Звязда, 11.05.2012); ***Страйк** таксама падтрымаў італьянскі саюз працы. Галоўным чынам **забастоўка** закранула транспартную сферу* (Звязда, 13.12.2014); *У васьмі нямецкіх землях прайшоў папярэджальны **страйк** дзяржаўных служачых... **Забастоўка** ахапіла галоўным чынам усходнія землі* (Народная воля, 13.03.2015). Як бачым, англіцызм **страйк** выдатна ўпісаўся і ў лексічную, і ў граматычную сістэму беларускай мовы, істотна пашырыўшы і яе сінанімічны патэнцыял. Заўважым, што на гэта могуць уплываць як устойлівыя, аб'ектыўныя фактары, так і аказіянальныя, суб'ектыўныя.

Расійскі даследчык В. Вілюман слушна сцвярджае, што "мова ўбірае ўсё традыцыйнае, што рэгіструецца слоўнікамі, з'яўляецца часткай сістэмы, а маўленне можа разумецца як наватарства". У выніку падобнага "наватарства" слоўнік і папаўняецца новымі лексемамі. Але сінанімічныя сувязі слоў традыцыйна ўзнікаюць у межах перасячэння некалькіх катэгорый. На гэта самым непасрэдным чынам уплывае асэнсаванне, усведамленне значэння новага слова ў працэсе спазнання, бо кожная новая лексема здольная не толькі замяняць больш звыклую сінанімічную адзінку, але і па сутнасці аналізаваць абазначаную ёй з'яву, даваць гэтай з'яве пэўную дадатковую ацэнку, пераводзіць яе ў прагматычную плоскасць.

(*Працяг – у наступным нумары*).

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Куды звярнуцца беларусам за мяжой, каб арганізаваць Імшы на беларускай мове?

*"Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Скажыце, калі ласка, хто адказны за душпастырства беларусаў за мяжой? Ёсць касцёл у Вільні і адбываюцца Імшы на беларускай мове ў Варшаве. Але ў большасці еўрапейскіх краін такой магчымасці няма. Куды звярнуцца беларусам за мяжой, каб арганізаваць Імшы на беларускай мове? Дзякуй і з Богам!"*

*Васіль*

– Паважаны Васіль! Спачатку паспрабуем больш шырока паглядзець на Вашае пытанне, якое закранае феномен міграцыі.

Калі глядзець глабальна і ўважліва на міграцыю, то мы заўважым, што яна не з'яўляецца чымсьці новым. І ад пачатку свайго існавання Касцёл клапоціцца пра людзей, якія знаходзяцца "ў дарозе". Войны, пераслед, пошукі лепшага жыцця і іншыя фактары паказваюць, што міграцыя стала не толькі магчымасцю пазнаёміцца з культурамі, знайсці лепшае жыццё, але і праблемай, каторая патрабуе адпаведных дзеянняў. А Касцёл, са свайго боку, заўсёды стараўся адказаць на гэты выклік.

Адным з прававых дакументаў Касцёла, у якім замацавалася новая форма душпастырскай дзейнасці, стаў Кодэкс кананічнага права 1917 года. Ён, у пэўным сэнсе, даваў магчымасць для развіцця душпастырства асоб, каторыя па розных прычынах апынуліся за мяжой сваёй Бацькаўшчыны. Аднак гаворка не ішла канкрэтна пра душпастырства мігрантаў. Апостальская Сталіца ў Кодэксе дала магчымасць існавання так званага этнічнага душпастырства.

Кодэкс браў пад увагу мігрантаў, што належалі да асобнай этнічнай групы, якой запэўнівалася адпаведнае для іх этнічнае душпастырства і над якім непасрэднае кіраўніцтва мела Апостальская Сталіца. І толькі яна мела выключнае права засноўваць, аднаўляць, зачыняць персанальныя парафіі, што вылучаліся асобнай мовай, нацыянальнай прыкметай ці абрадам. Стары Кодэкс таксама рэкамендаваў навучанне адмысловых святароў, якія б займаліся этнічным душпастырствам.

Згодна з кананічным правам, этнічнае душпастырства было арганізавана ў наступных формах: персанальная парафія, тэрытарыяльная этнічная парафія, парафіяльны вікарыят, рэктаральны касцёл, капеланіі. Існавала таксама магчымасць прызначэння прапаведніка, катэхэта, спаведніка, спаведніка на караблі і г.д.

Акрамя Кодэкса кананічнага права 1917 года існавалі таксама іншыя дакументы Касцёла, што рэгулявалі працу з этнічнымі групамі і мігрантамі. Адным з найважнейшых дакументаў была Канстытуцыя *Exsul Familia*, выдадзеная Папам Піем ХІІ 1 жніўня 1952 года. Назва Канстытуцыі, дарэчы, адносіцца да Святой Сям'і, якая была змушана бегчы ў Егіпет і якая лічыцца архетыпам кожнай сям'і бежанцаў ці мігрантаў.

Штуршок для ўпарадкавання і аднаўлення душпастырства этнічных груп і мігрантаў даў Другі Ватыканскі Сабор. Юрыдычны агляд прадпісанняў Канстытуцыі *Exsul Familia* зрабілі Папа Павел VI, выдаючы 15 жніўня 1969 г. папскі рэскрыпт *Pastoralis migratorum cura*, а таксама Папа Ян Павел ІІ у Кодэксе кананічнага права 1983 г. З цягам часу была створана Папская Рада душпастырства вандроўнікаў і мігрантаў.

Разважаючы над міграцыйным феноменам, трэба адзначыць, што ён мае розныя бакі, якія, у сваю чаргу, нясуць розныя наступствы. Святы Ян Павел ІІ у Пасланні на Сусветны дзень мігранта ў 1985 годзе напісаў, што міграцыя з'яўляецца "неабходным злом", таму што яна прыносіць страту для краіны паходжання мігранта, а таксама цягне за сабой асаблівую небяспеку. У першую чаргу, гаворка ідзе пра рызыку ізаляцыі ў новым асяроддзі, а таксама пра праявы ксенафобіі або крайняга нацыяналізму з боку асяроддзя мігрантаў. Заданнем жа Касцёла з'яўляецца прадухіліць гэтыя небяспекі. Разам з гэтым Папа бачыў у міграцыі і пазітыўны бок. Міграцыя, казаў ён, перадусім дае шанс духоўнага і чалавечага ўзбагачэння народаў праз сутыкненне розных культур.

У Пасланні на Сусветны дзень мігранта ў 1987 годзе Папа адзначыў, што кожны чалавек, які сутыкаецца з гэтым феноменам, уносіць у Касцёл свой "сэнс веры", заснаваны на трох слупах – пакоры, вернасці і малітве, якія ўзбагачаюць мясцовую супольнасць. Міграцыя – з'ява, якая можа спрыяць знішчэнню прадузятасцяў і стварэнню сталай брацкай атмасферы паміж людзьмі.

Кардынал Вальтэр Каспер, былы сакратар Папскай Рады па садзейнічанні хрысціянскаму адзінству, у артыкуле "Касцёл як супольнасць" піша, што Касцёл не існуе сам для сабе, і па гэтых прычынах евангелізацыйная місія ў асяроддзі мігрантаў з'яўляецца неад'емнай часткай усёй евангелізацыйнай справы Касцёла ў свеце. Згодна з вучэннем Другога Ватыканскага Сабору, Касцёл адчувае сябе цесна звязаным з Божым Народам, часткай якога з'яўляюцца таксама і мігранты.

> **"У Кодэксе кананічнага права 1983 года мігранты атрымалі пацвярджэнне і гарантыю роўнасці сваіх правоў з правамі іншых вернікаў – усіх чальцоў Каталіцкага Касцёла."**

Згодна з прадпісаннямі канонаў 209-214 Кодэксу кананічнага права, як і ўсе вернікі, мігранты абавязаны падтрымліваць сувязь з Касцёлам. Такім чынам, яны павінны выконваць абавязкі, якімі яны звязаны як з Паўсюдным Касцёлам, так і з партыкулярным, на тэрыторыі якога ім даводзіцца жыць. Яны маюць права прадстаўляць свае патрэбы пастырам, у асноўным духоўнага характару, маюць права атрымліваць святарскую дапамогу, якая паходзіць з духоўных дабротаў Касцёла, а асабліва з Божага слова, яны маюць права адпраўляць Божы Культ у адпаведнасці з прадпісаннямі ўласнага абраду, зацверджанымі законнымі пастырамі Касцёла, і ісці шляхам свайго духоўнага жыцця, згодным з навукай Касцёла. Калі ўважліва прыглядзіцца, то бачна, што

> **"Кананічнае права ставіцца да мігрантаў так, як і да іншых вернікаў, не абцяжарваючы іх дадатковымі абавязкамі, але і не надаючы ім асаблівых прывілеяў."**

У пасланні на Сусветны дзень мігранта 2001 г. Папа Ян Павел ІІ падкрэсліў, што для мігрантаў неабходна сістэматычнае, індывідуальнае




і супольнае душпастырства, здольнае аказаць дапамогу ў самы цяжкі перыяд, пакуль яны цалкам не інтэгруюцца ў мясцовы Касцёл, і калі яны змогуць выкарыстоўваць звычайнае служэнне святароў тэрытарыяльнай парафіі мясцовага Касцёла.

22 лютага 2004 года Кангрэгацыя па справах біскупаў выдала Дырэкторый *"Apostolorum successores"*, з якога мы можам зразумець, хто павінен паклапаціцца пра душпастырства мігрантаў, калі існуе такая неабходнасць. "Біскуп павінен звярнуць асаблівую ўвагу на духоўныя патрэбы тых людзей, якія з-за ўмоў жыцця не могуць у дастатковай ступені карыстацца агульным і звычайным душпастырствам". Зразумела, што гаворка ідзе пра дыяцэзіяльнага біскупа той дыяцэзіі, на тэрыторыі якой знаходзіцца пэўная група мігрантаў. Толькі ён мае выключнае права рэгуляваць душпастырскую дзейнасць у сваёй дыяцэзіі, вызначыць святара, які будзе цэлебраваць Імшы, які будзе адказным за душпастырства мігрантаў, надаючы яму ўсе неабходныя дазволы для выканання гэтай функцыі (права хрысціць, спавядаць, цэлебраваць Эўхарыстыю, прапаведаваць і г.д).

Таму на Вашае пытанне, паважаны Васіль, можна адказаць наступным чынам: каб арганізаваць Імшу на беларускай мове, Вам неабходна звярнуцца да біскупа той дыяцэзіі, на тэрыторыі якой вы Вы маеце месца жыхарства.

Канон 102 § 1 дзеючага Кодэкса кананічнага права прадугледжвае, што сталае месцажыхарства набываецца праз пражыванне на тэрыторыі якой-небудзь парафіі альбо дыяцэзіі, што звязана з намерам застацца там назаўсёды альбо працягнулася поўных пяць гадоў.

У другім параграфе таго ж самага канону гаворыцца, што часовае месцажыхарства набываецца праз пражыванне на тэрыторыі якой-небудзь парафіі альбо дыяцэзіі, якое звязана з намерам застацца там прынамсі на тры месяцы альбо фактычна працягнулася тры месяцы.

Таму кожны, хто знаходзіцца па-за межамі Бацькаўшчыны, раней ці пазней становіцца вернікам пэўнай парафіі, на тэрыторыі якой павінен пражывае, у жыцці якой павінен прымаць актыўны ўдзел і падлягае юрысдыкцыі біскупа той дыяцэзіі, на тэрыторыі якой мае сталае або часовае месцажыхарства. Неабходна зразумець, што асноўнай мэтай функцыянавання душпастырскіх структур мігрантаў з'яўляецца стварэнне магчымасцей для інтэграцыі гэтай групы людзей у мясцовую парафіяльную і грамадскую супольнасць.

*Кс. Аляксей Ляшко*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **Соф'я Ермаковіч** *(Глыбокае)*, **Уладзімір Малькевіч** *(Гомель)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Дар'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Ядвіга Мядзвецкая** *(Сталіца)*, **Яніна Волк** *(Хацілы)*, **Галіна Падалевіч** *(Бігосава)*, **Людміла Падаляка** *(Полацк)*, **Вікенцій Навіцкі** *(Браслаў)*, **вернікі з Мёраў, Дуброўна і Ёдаў, Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Леакадзія Пазняк** *(Прусы)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Валерый Ракіцкі** *(Браслаў)*, **Алена Емельянава** *(Дунілавічы)*, **Франак** *(Сынадворцы)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шэметава)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Валянціна Хадanёнак** *(Сталіца)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Вера Беганская** *(Жары)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Мікалай Рагожкін** *(Новы Пагост)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Валянціна Сурвіла** *(Шэметава)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Зенона Альксніп** *(Браслаў)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Антаніна і Ганна Дарашкевіч** *(Янкавічы)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **рух "Маргарытка" з Падсвілля, Эма Козел** *(Докшыцы)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*




Працягваем вывучаць Біблію разам з Пазнавайкай.

У гэтым нумары пазнаёмімся з асобаю Цара Саламона. Гэта быў трэці Ізраільскі цар. Пра яго жыццё можна даведацца падрабязней, калі прачытаеш 3 кнігу Царстваў.



Успомні як звалі бацькоў Цара Саламона?

Выберы правільны адказ.

А) Саўл і Вірсавія ☐

☐ Б) Давід і Вірсавія

В) Галіяф і Даліда ☐

☐ Г) Майсей і Сепфора



Ці ведаеш аб чым прасіў Цар Саламон Госпада? Каб даведацца, прачытай урывак з Бібліі 3 кніга Царстваў 3, 1-15. Правер сябе, разгадай рэбус і атрымаеш адказ.




АДКАЗ:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | | |



Цар Саламон пабудаваў Ерусалімскі Храм. Паглядзі на малюнку як гэта адбывалася і знайдзі 7 адрозненняў.







Саламон славіўся сваёй мудрасцю, якую ён атрымаў ад Госпада. Царыца Саўская прыйшла да Цара Саламона, каб паразмаўляць з ім. Прачытай аб гэтай падзеі у 3 кнізе Царстваў 10, 1-13.

Які шлях прывядзе Царыцу Саўскую да Цара Саламона?



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# У Лідзе адноўлены гістарычны арган

**У фарным касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе быў адноўлены гістарычны арган, які ўжо можна пачуць падчас набажэнстваў.**

Пра тое, як адбывалася аднаўленне старадаўняга інструмента ў галоўнай лідскай святыні, распавёў на сваёй старонцы ў сацыяльнай сетцы Facebook арганолаг Аляксандр Бурдзялёў.

Капітальны рамонт і рэстаўрацыя гістарычнага аргана, пабудаванага ў чэрвені 1939 года фірмай "A. A. Homan St. Jezierski w Warszawie", вяліся ў 2020–2021 гадах.

Гэтаму папярэднічала працяглая падрыхтоўчая праца, якая распачалася па ініцыятыве вядомага мецэната і арганістааматара Юрыя Зісера, які выступіў асноўным спонсарам аднаўлення інструмента. Юрый Зісер прычыніўся таксама да аднаўлення арганаў у Мінску, Нясвіжы і Пінску.



Асноўны этап працаў у Лідзе быў распачаты ўжо пасля смерці мецэната, які адышоў у вечнасць у маі мінулага года. Як піша Аляксандр Бурдзялёў, арган у лідскай фары быў ім выбраны для аднаўлення невыпадкова. Браліся пад увагу важнае размяшчэнне інструмента, рэлігійная значнасць (фарная парафія ў Лідзе – адна з найстарэйшых і найбольшых у Беларусі), турыстычны і адукацыйны патэнцыял, а таксама адкрытасць для супрацоўніцтва пробашча парафіі ксяндза-каноніка Уладзіміра Гуляя, Біскупскага вікарыя па Лідскай акрузе Гродзенскай дыяцэзіі.

Арган лідскай фары – апошні такі гістарычны інструмент, пабудаваны на тэрыторыі нашай краіны ў міжваенны перыяд.

Арганолаг адзначае, што інструмент працяглы час знаходзіўся ў непрацоўным стане. Механізмы былі істотна пашкоджаныя, а некаторыя трубы страчаныя. У 1996 годзе арган ужо спрабавалі рамантаваць, але спроба аказалася няўдалаю.

Плануецца, што благаслаўленне і прэзентацыя аргана адбудуцца ў першай палове верасня, але ўжо цяпер падчас набажэнстваў і экскурсій можна пачуць, як гучыць адноўлены інструмент лідскай фары.

*Catholic.by*

# Марыя – Каўчэг Запавету.
## Парафіяльная ўрачыстасць у Мёрах

**15 жніўня парафія ў Мёрах адзначыла адпустовую ўрачыстасць у гонар Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Галоўная святая Імша распачалася а 15-ай гадзіне.**

■ **Жанна Закрэўская**, *kascelmery.by*

З прывітальным словам да вернікаў звярнуўся пробашч парафіі ксёндз Андрэй Кулік. Ён прадставіў святароў, якія прыбылі на свята, і запрасіў канцлера Віцебскай дыяцэзіі ксяндза Віктара Місевіча ўзначаліць Эўхарыстыю.

Гамілію прамовіў доктар біблійнай тэалогіі пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Друі ксёндз Сяргей Сурыновіч. Ён спыніўся на гісторыі ўзнікнення ўрачыстасці і тэалагічным сэнсе Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. Святар таксама засярodзіў увагу вернікаў на асобе Марыі, Якая з'яўляецца прыкладам чысціні і пакоры і, як Каўчэг Запавету, вядзе нас да раю.

Напрыканцы Імшы пробашч мясцовай парафіі падзякаваў святарам за паслугу ў канфесіянале і ўдзел у Эўхарыстыі. Ён выказаў удзячнасць вернікам за падрыхтоўку святыні і тэрыторыі касцёла да ўрачыстасці, удзел у адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту на працягу тыдня. Асаблівыя словы падзякі прагучалі ў адрас дзіцячага і дарослага парафіяльных хораў і іх кіраўніка Яўгеніі Баговіч.




Затым адбылося традыцыйнае благаслаўленне і асвячэнне кветак і пладоў новага ураджаю. Завяршылася Імша адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту, падчас якой усе разам памаліліся Літанію да Найсвяцейшай Панны Марыі, а потым эўхарыстычнай працэсіяй прайшлі вакол касцёла.



Гамілія ксяндза Сяргея Сурыновіча

## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам A1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – В; 2 – В; 3 – А; 4 – Б; 5 – А; 6 – Б; 7 – В; 8 – В; 9 – Б; 10 – А

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4293

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3600 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 25.08.2021 г. у 12.10

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь